ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!




# КААПЭРАЦЫЯ БССР

ЧАСОПІСЬ БЕЛКААПСАЮЗУ і БЕЛСАМПРАМСАЮЗУ
ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У 20 ДЗЕН

10 верасьня—20 кастрычніка

№ 9-10

МЕНСК 1930

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

С. К-кі—Трынаццаць год . . . . . 3
А. С-ка—Па-бальшавіцку сустрэнем трэці год пяцігодкі . . . . . 4
П. Бурачэўскі—Каапэрацыя і транспарт . . . . . 8
В.—Абвесьцім рашучую барацьбу . . . . . 9
Сулькіна—Прыгарадныя гаспадаркі . . . . . 10
І. Верба—Што выявіла чыстка апарату БКС (працяг) . . . . . 11

**Рабочае забесьпячэньне—на агляд**

Б. Малаў—За добраякасны хлеб . . . . . 17
Рубін П.—Зачынены разьмеркавацель—асноўная форма забесьпячэньня . . . 19
Нісенбаум—Палепшым справу хлебапячэньня . . . . . 21
Любчанскі—Прарыў у барысаўскай пякарні . . . . . 22
М. Б-к—Праца менскага хлебазаводу . . . . . 23
Левін—Узмацніць рыбалоўства . . . . . 25
Пайнік—Зьнішчыць недахопы . . . . . 27

**Мабілізуем сродкі насельніцтва**

П. Бурачэўскі—Заданьні па мабілізацыі сродкаў зрываюцца . . . . . 28
С. Лодысеў—Ганебныя тэмпы . . . . . 29

**На загатоўчым фронце**

З. Фрыдлянскі—Ліквідаваць прарывы . . . . . 30
З. Ф-скі—У бой за бульбу . . . . . 31

**Па цэрабкоопах**

У. В-а—Чаму распушчана праўленьне віцебскага ЦРК . . . . . 33
Ваўкавіцкі—Аб ходзе работы па праверцы наборных кніжак . . . . . 35
В-кі—Як бабруйскі ЦРК выконваў важнейшыя дырэктывы . . . . . 36
Я. Рачны—Аргнарада рабочай каапэрацыі . . . . . 37

**Барацьба за кадры**

М. Чавускі—Вылучэнцаў—на камандныя вышыні . . . . . 40

**Сампрамкаапэрацыя БССР**

І. К-ін—За рацыяналізацыю працы . . . . . 43
Катляроў—Абвесьцім вайну стратам . . . . . 44
С. Лодысеў—„Чырвоны Тэкстыльшчык" . . . . . 45

**На мясцох**

Б. І.—Нядбайнасьць ці злачынства? . . . . . 47
Свой—Не падрыхтаваліся . . . . . 49
Селянін—Пра беднату забыліся . . . . . 49
Гаранец—Хлебазагатоўка прайшла з уздымам . . . . . 49
Пайнік—Раўняцеся па прапойскаму . . . . . 50

**Наша хроніка** . . . . . 51

**Бібліяграфія** . . . . . 52

Галоўлітбел № 2316  Заказ № 314—1200 экз.  Друкарня „Палесдрук", Гомель.

С. К-кі

# Трынаццаць год

Дыктатура пралетарыяту ў нашай краіне ўпісала на старонкі гісторыі трынаццаты год свайго існаваньня.

Год таму назад аб дванаццатым годзе кастрычніка, першым годзе пяцігодкі, т. Сталін пісаў, што гэта год вялікага пералому ў напрамку ажыцьцяўленьня сацыялістычнага будаўніцтва. Посьпехамі першага году пяцігодкі на практыцы перад тварам усяго сьвёту было даведзена, што пабудова сацыялізму ў нашай краіне ня толькі магчыма, але і можа быць зьдзейсьнена ў гістарычна-мінімальны тэрмін. На практыцы было даведзена, што савецкая сыстэма гаспадаркі зьмяшчае ў сабе вялізарныя магчымасьці да шпаркага руху ўперад, да сацыялістычнай сыстэмы гаспадаркі.

Другі год пяцігодкі і трынаццаты год кастрычніка зьяўляюцца годам далейшага паглыбленьня і разьвіцьця гэтага пералому. Ён яшчэ яскравей выявіў тэндэнцыі гэтага пералому, ён даў магчымасьць перайсьці ад наступу на капіталізм на асобных вучастках фронту да наступу па ўсім фронце. Так вызначыў характар адбыўшагася пералому XVI зьезд нашае партыі.

Ад палітыкі абмежаваньня і выцісканьня кулака мы перайшлі да палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнае калектывізацыі, бо кулак—вораг сацыялістычнага будаўніцтва, кулак эксплёатуе працоўных для ўласнае нажывы.

„Кулакі—самыя зьверскія, самыя грубыя, самыя дзікія эксплёататары, ня раз устанаўлівалі ў гісторыі другіх краін уладу памешчыкаў, цара, паноў, капіталістых. Кулакі карыстаюцца цемрай, раздробленасьцю, распыленасьцю вясковай беднаты. Яны нацкоўваюць яе на рабочых, яны падкупляюць часамі яе, даючы ёй-жа соценку рублікаў „пажывіцца“ ад спэкуляцыі хлебам (і ў той жа час грабяць беднату на шмат тысяч). Кулакі імкнуцца перацягнуць на свой бок сярэдняга селяніна, і часамі ім гэта ўдаецца“.

Тыя вялізарныя посьпехі, якія мы маем у працягу трынаццаці год дыктатуры пралетарыяту, выявіліся ў выніку правільнага кіраўніцтва камуністычнай партыі, вялікага ўздыму рабочае клясы і ўсіх працоўных СССР і далі нам магчымасьць рашуча паставіць пытаньне аб ліквідацыі кулацтва як клясы.

Наша краіна цяпер уступіла ў пэрыод сацыялізму. Сацыялістычны сэктар зараз кіруе ўсім гаспадарчым жыцьцём.

На XVI зьезьдзе партыі т. Сталін казаў: „Яскрава, што мы ўжо ўступілі ў пэрыод сацыялізму таму, што сацыялістычны сэктар трымае зараз у руках усе гаспадарчыя падважнікі ўсяе народнае гаспадаркі“.

Ужо зараз у нас у СССР за 13 год дыктатуры пралетарыяту ёсьць значныя дасягненьні. Пабудавана за гэты кароткі час шэраг прадпрыемстваў, якія, бязумоўна, могуць вытрымаць спаборніцтва з буйнейшымі прадпрыемствамі Эўропы і Амэрыкі.

Для прыкладу пакажам толькі на такія заводы, як Сталінградзкі трактарны завод, гісэрня і кузьня „Чырвонага Пуцілаўца“, электразавод у Маскве, Марыўпальскі новатрубны завод, Балахнійская папяровая фабрыка, пераапрацоўка нафты ў Баку і Грозным, Архангельскі лесаапрацоўчы завод, шэраг буйных электрастанцый, Турксіб і інш.

Гэтыя пабудаваныя прадпрыемствы зьяўляюцца дасягненьнямі рабочае

клясы і працоўнага сялянства за 13 год савецкай улады.

Плян, вызначаны пяцігодкай, у першыя два гады перавыкананы: машын выпушчаецца зараз больш у тры разы, як два гады таму назад. Таксама ў галіне калектывізацыі мы далёка перасягнулі пляны, вызначаныя пяцігодкай. Мы цяпер маем поўную магчымасьць выканаць плян пяцігодкі ў чатыры гады. Мы ідзем шпаркім тэмпам уперад, ня гледзячы ні на якія цяжкасьці, таму што „нашы цяжкасьці,—як кажа тав. Сталін у палітычнай справаздачы XVI зьезду партыі,—зьяўляюцца такімі цяжкасьцямі, якія самі зьмяшчаюць у сабе магчымасьці іх перамогі. Гэта значыць што асаблівая рыса нашых цяжкасьцяй ў тым, што яны самі даюць нам базу для іх зьнішчэньня“. Нашы цяжкасьці--цяжкасьці росту.

Але гэта зусім ня значыць, што мы не павінны весьці рашучай барацьбы з цяжкасьцямі, што яны самі сябе перамогуць. Мы павінны весьці самую рашучую барацьбу з усімі цяжкасьцямі, весьці жорсткую барацьбу з варожымі асобамі, якія спэкулююць на гэтых цяжкасьцях.

„Для перамогі цяжкасьцяй,—кажа ў гэтай-жа справаздачы т. Сталін,— неабходна, перш за ўсё, адбіць атакі капіталістычных элемэнтаў, падавіць іх супраціўленьне і расчысьціць, *такім* чынам, шлях для хуткага поступу ўперад“.

Мы гэтага дасягнем узьнятай актыўнасьцю ўсяе рабочае клясы і працоўнага сялянства, якія, пад кіраўніцтвам ленінскай камуністычнай партыі, за трынаццаць год савецкай улады шчыльна падыйшлі да пабудовы сацыялізму і якім прызначана гісторыяй пабудаваць яго.

Мы шпаркім тэмпам ідзем да пабудовы сацыялізму ў нашай краіне. Гаспадарка капіталістычных краін штодзень ідзе да свайго заняпаду. Насьпяваюць сілы міжнародна-пралетарскай рэвалюцыі.

Сацыялізм расьце, мацнее, перамагае і пераможа.

---

А. С-ка

# Па-бальшавіцку сустрэнем трэці год цяцігодкі

„Вытворчая праграма бягучага году і гаспадарчы плян трэцяга году пяцігодкі становяць сабою практычную праграму сацыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту“

(З *адозвы ЦК УсеКП(б) ад 3-га верасьня 1930 г.*)

Выкананьне вытворчае праграмы бягучага гаспадарчага году патрабуе надзвычайна пільнае да сябе ўвагі ня толькі з боку ўсіх гаспадарчых органаў, але і з боку партыйна-камсамольскіх, прафсаюзных арганізацый і наогул з боку ўсяе пралетарскай грамадзкасьці і мільённых працоўных мас нашага Саюзу. Напружанасьць, а разам з гэтым і адказнасьць за практычную работу ў гэтым напрамку ўзмацняецца тым больш ва ўмовах сёньняшняга дню яшчэ і таму, што ў выкананьні прамфінпляну гэтага году мы дзе-ні-дзе маем так званыя прарывы, гэта ёсьць недавыкананьне ў шэрагу прадпрыемстваў тых вытворчых праграм, што прадугледжаны на гэты год пяцігадовым плянам разьвіцьця нашае сацыялістычнае гаспадаркі ва ўсіх яе галінах.

Вось гэтыя прарывы ў выкананьні прамфінпляну, калі яны ня будуць сваячасова і цалкам зьліквідаваны, могуць паставіць пад пагрозу магчымасьць нармальнага разьвіцьця сацыялістычнага будаўніцтва, паводле вызначаных плянаў у трэцім надыходзячым годзе пяцігодкі, а тым самым могуць паставіць пад пагрозу і магчымасьць выкананьня яе за чатыры гады. І гэта зусім зразумела, бо

асноўнаю ўмоваю ў справе барацьбы за ажыцьцяўленьне пяцігодкі ў чатыры гады зьяўляецца сыстэматычная і ўпартая праца па выкананьню і перавыкананьню штогодняе вытворчае праграмы ў яе колькасных і якасных паказальніках на падставе далейшага разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва ў яго ўсё новых і вышэйшых формах (скразныя брыгады, грамадзкі буксір, сустрэчны прамфінплян).

Вось чаму „бальшавіцкая падрыхтоўка да выкананьня гіганцкае вытворчае праграмы трэцяга году пяцігодкі зьмяшчаецца ў бязумоўным выкананьні прамфінпляну бягучага (1929-30) гаспадарчага году“.

Апошняя акурат і высоўвае вялікія задачы гаспадарча-палітычнага характару перад усімі гаспадарчымі органамі, а таксама партыйна-камсамольскімі ды прафсаюзнымі арганізацыямі на прадпрыемствах, у саўгасах і калгасах. Гэтыя задачы ў першую чаргу зьмяшчаюцца ў неабходнасьці, асабліва з боку апошніх арганізацый, стаць на чале мабілізацыі ўвагі і творчага ўздыму мільённых працоўных мас на барацьбу за ліквідацыю маючыхся прарываў, на барацьбу за сваячасовае і поўнае выкананьне плянавых заданьняў гэтага году па сацыялістычнаму будаўніцтву, з аднаго боку, а з другога—у неабходнасьці з найвялікшай рацыянальнасьцю скарыстаць усе ўнутраныя магчымасьці матар‘яльнага парадку і рэсурсы, якія ёсьць у канкрэтных умовах кожнага паасобнага прадпрыемства, кожнага саўгасу, кожнага калгасу.

Вось у сьвятле так сфармуляваных задач, што стаяць перад усёй савецкай грамадзкасьцю, перад усімі гаспадарчымі органамі і грамадзкімі арганізацыямі (партыйнымі, прафсаюзнымі і інш.) у барацьбе за бязумоўнае выкананьне прамфінпляну бягучага і за бальшавіцкую сустрэчу надыходзячага трэцяга году пяцігодкі, не апошнюю ролю павінна адыгрываць і каапэрацыя, пры чым тыя памылкі і недахопы ў працы апошняй, якія зьяўляюцца галоўнымі прычынамі, абумовіўшымі сабою прарыў у выкананьні прамфінпляну ў гэтым гаспадарчым годзе, павінны быць зараз жа зьнішчаны. Улічваючы іх, усе каапэрацыйныя органы і паасобныя працаўнікі каапэрацыйнае сыстэмы павінны з найвялікшай дасканаласьцю вызначыць канкрэтныя шляхі і практычныя захады ў сваёй далейшай працы. Гэтыя захады павінны быць цалкам накіраваны на ліквідацыю прарываў і на бальшавіцкае выкананьне прамфінпляну. У парадку бальшавіцкай самакрытыкі неабходна адзначыць, што ў сваёй аснове памылкі і недахопы ў працы каапэрацыі, як і ў працы шмат якіх гаспадарчых, прафсаюзных і інш. арганізацый, зьмяшчаюцца ў няздольнасьці, асабліва з боку паасобных каапэрацыйных арганізацый, прыстасавацца да новых абставін, да новых умоў у жыцьці нашага Саюзу, якія стварыліся ў сувязі са шпаркім ростам тэмпаў сацыялістычнае прамысловасьці, калектывізацыі нашае сельскае гаспадаркі з усімі адгэтуль вынікаючымі вынікамі. Апошні недахоп канкрэтна вызначыўся ў няздольнасьці спажывецкай каапэрацыі перабудаваць сваю работу ў адпаведнасьці з задачамі замацаваньня рабочага складу на вытворчасьці, асабліва ва ўмовах так званае „цякучасьці“ яго, у няздольнасьці мабілізаваць свае вытворчыя магчымасьці для сапраўднага палепшаньня забесьпячэньня рабочых мас, разгарнуць масавы кантроль з боку рабочых і работніц над працаю ўсіх органаў каапэрацыі; кантроль асабліва важна правесьці ва ўмовах часам бюракратычных адносін паасобных працаўнікоў каапэрацыі і цэлых каапэрацыйных арганізацый, ва ўмовах захаванага і адкрытага шкодніцтва ў справе забесьпячэньня працоўных мас, якое (шкодніцтва) выклікаецца з боку варожых пралетарыяту элемэнтаў, як вынік клясавае барацьбы, якая ў сувязі з сацыялістычным наступленьнем усё больш і больш узмацняецца.

Вось падобныя памылкі і недахопы ў працы каапэрацыі, разам з такімі-ж памылкамі ў працы іншых арганізацый і органаў, сапраўды спрыялі пасла бленьню працоўнае дысцыпліны і

нядбайнасьці сярод некаторай менш сьвядомай часткі рабочых на паасобных прадпрыемствах, спрыялі павялічэньню „цякучасьці“ рабочага складу, паслабленьню сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. А ўсё гэта ўзятае разам як вынік праяўленьня правага апартунізму на практыцы з боку кіраўнічых органаў, прафсаюзных і іншых організацый, у тым ліку і каапэрацыйных, абумовіла зьяўленьне прарыву ў выкананьні прамфінпляну і тым самым паставіла пад пагрозу выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады. На ліквідацыю гэтых прарываў зараз накіраваны ўсе сілы рабочае клясы і яго авангарду—камуністычнае партыі, усе сілы мільённых працоўных мас Савецкага Саюзу.

Вось чаму і каапэрацыя не павінна быць у баку ад гэтае справы, вось чаму яе галоўная ўвага на сёньняшні дзень, перш за ўсё, павінна быць накіравана на ажыцьцяўленьне гэтых задач шляхам усямернага садзейнічаньня ліквідацыі стварыўшыхся прарываў і выкананьню з перавышэньнем у вызначаны тэрмін прамфінпляну ў гэтым гаспадарчым годзе.

З гэтага пункту погляду на каапэрацыю выпадае вельмі вялікая і адказная задача мабілізаваць энтузыязм і ўвагу працоўных мас вакол чарговых задач сацыялістычнага будаўніцтва, павялічыць сьвядомасьць гэтых мас і палепшыць матар'яльна-бытавое становішча іх. Спынімся коратка хоць-бы на апошнім.

Зараз для кожнага зьяўляецца бясспрэчным той факт, што арганізацыя справы забесьпячэньня рабочых мас мае галоўнейшае значэньне ў справе выкананьня прамфінпляну, і таму ўвага каапэрацыі перш за ўсё павінна быць зьвернута менавіта на гэты вучастак працы. У мэтах лепшае арганізацыі разьмеркаваньня, каапэрацыі неабходна перад усім шырока разгарнуць такія формы гэтага разьмеркаваньня, што сапраўды ў найвялікшай ступені забясьпечваюць перад усім інтарэсы рабочых вытворчасьці. Да такіх форм, бязумоўна, належаць так званыя зачыненыя разьмеркавацелі, замацаваньне рабочых-пайнікаў за пэўнымі магазынамі. Асаблівае значэньне з гэтага пункту погляду мае барацьба са злачынствам і шкодніцтвам у каап. апараце, а таксама ўзмацненьне спагнаньняў за злоўжываньне карткамі, талёнамі і барацьба з інш. формамі шкодніцтва, якія не даюць магчымасьці каапэрацыі нармальна забясьпечваць прадуктамі шырокія працоўныя масы. Таму барацьба каапэрацыі з вызначанымі праявамі зьяўляецца, па-першае, барацьбой за прамфінплян, паколькі гэтая барацьба вядзе да палепшаньня рабочага забесьпячэньня, па-другое, гэтая барацьба са злачынствам і шкодніцтвам, з растратамі у каапэрацыйным апараце ўзьнімае аўтарытэт каапэрацыі і тым самым забясьпечвае магчымасьць уцягненьня ў каапэрацыю новых членаў. Вось у сувязі з апошнім неабходна паставіць, між іншым, працу каапэрацыі ў напрамку каапэраваньня маламоцных пластоў насельніцтва у гарадох і асабліва ў вёсках.

Такім чынам, максымальнае палепшаньне забесьпячэньня працоўных мас, барацьба з бюракратызмам, з дзяляцтвам у каапэрацыйным апраце, якія на справе вельмі часта перашкаджаюць гэтаму палепшаньню, барацьба са злачынствам, растратамі, ўзмацненьне каапэраваньня працоўных мас зьяўляецца адным з момантаў практычнага ўдзелу каапэрацыі ў выкананьні прамфінпляну бягучага году і ў сустрэчы надыходзячага трэцяга году пяцігодкі.

Другім ня менш значным момантам у справе палепшаньня забесьпячэньня прамысловых раёнаў зьяўляецца неабходнасьць фарсаванага разьвіцьця поблізу ад гэтых раёнаў самастойных каапэрацыйных гаспадарак: гародных, жывёлагадоўчых, малочных і г. д. Праца над пабудоваю такіх гаспадарак будзе таксама ўяўляць з сябе практычную працу па ажыцьцяўленьню выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, бо калі ў бягучым годзе дзе-ні-дзе гэтая праца дрэнна арганізавана і ня можа даць нічога рэальнага ў справе выкананьня прамфінпляну гэтага году, усё ж з пункту погляду агульнае накіраванасьці такая падрыхтоўчая

праца да вызначанае справы можа быць ужо і зараз гарантыяй таго, што ў наступным годзе яна дасьць свой эфэкт, бо можа значна палегчыць справу забесьпячэньня рабочых мас пэўнага прамысловага раёну прадуктамі. Трэба толькі зараз жа і пабальшавіцку ўзяцца за гэтую справу.

Вялікая задача стаіць перад каапэрацыяй і ў справе зьніжэньня сабекошту тавараў і падвышэньня рэальнае заработнае платы. Улічваючы тое, што і на гэтым вучастку ў нас ня ўсё добра, неабходна зараз жа зьвярнуць сур'ёзную ўвагу і на гэты бок справы з тым, каб праз хуткае і бальшавіцкае ўжываньне пэўных сродкаў і мэтадаў (барацьба з накладнымі выдаткамі, з растратамі, скарачэньне апарату і інш.) дабіцца патрэбных вынікаў і падыйсьці нават з перавышэньнем да канкрэтных лічбаў, вызначаных плянам бягучага году.

Практычны ўдзел каапэрацыі ў выкананьні прамфінпляну гэтага году павінен выявіцца і ў галіне дапамогі сельскай гаспадарцы наогул і саўгасам і калгасам паасобку, і тады каапэрацыя справіцца з тымі арганізацыйнымі і гаспадарчымі задачамі, якія стаяць перад ёю. У гэтым напрамку каапэрацыя сапраўды мае шмат магчымасьцяй і павінна як мага хутчэй скарыстаць іх для ліквідацыі прарываў, якія ёсьць у сельскай гаспадарцы, асабліва ва ўборачнай пасяўной кампаніі і па сілагаваньню.

Да гэтых магчымасьцяй каапэрацыі, якія павінны быць зараз жа скарыстаны для вызначанае мэты, належаць такія рэальныя сродкі, як розныя сельска-гаспадарчыя машыны, цягавая сіла, насенныя пункты і інш. Гэтымі сродкамі, зрэшты, вызначаюцца і тыя шляхі, па якіх павінна ажыцьцяўляцца дапамога сельскай гаспадарцы з боку каапэрацыі.

Шляхі гэтыя настолькі відавочны, што пра іх непатрэбна нават і казаць. Патрэбна зазначыць толькі, што ўсе каапэрацыйныя арганізацыі павінны цяпер стала і сыстэматычна рэгуляваць паступленьне ў сельскую гаспадарку ўсялякіх машын, насеньня, угнаеньня ўсіх відаў і інш. Аказваючы ўсямерную дапамогу саўгасам і калгасам, неабходна мець на ўвазе абслугоўваньне індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Неабходна арганізаваць дапамогу апошнім з такім разьлікам, каб гэтая дапамога спрыяла сапраўды ўцягненьню гэтых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у арцелі, калгасы і іншыя калектывы. У гэтых мэтах, апрача маючыхся ў распараджэньні каапэрацыі сродкаў матар'яльнага характару, неабходна скарыстаць таксама і сродкі культурна-асьветнага характару: кіно-перасоўкі, клюбы, адпаведную літаратуру і інш, пры чым усю гэту працу, усю дапамогу ў дачыненьні да сельскае гаспадаркі неабходна будаваць так, каб яна была падпарадкавана цалкам ажыцьцяўленьню пастаноў XVI зьезду ЎсеКП(б) аб неабходнасьці скончыць да канца пяцігодкі ў асноўным калектывізацыю сельскае гаспадаркі СССР шляхам правядзеньня ў вёсцы ленінскае палітыкі.

Такім чынам, барацьба за выкананьне прамфінпляну бягучага году і бальшавіцкая сустрэча трэцяга году пяцігодкі—вось асноўны лёзунг дню, які павінен зьяўляцца кіруючым момантам ва ўсёй практычнай працы каапэрацыйнай сыстэмы. І, бязумоўна, з задачамі, адгэтуль вынікаючымі, каапэрацыя, як і ўсе іншыя арганізацыі, здолее справіцца толькі шляхам рашучае барацьбы з недысцыплінаванасьцю, з нядбайнасьцю ў адносінах да абавязкаў усіх працаўнікоў каап. сыстэмы, шляхам рашучае барацьбы з самацёкам і замяшаньнем—горшымі відамі правага ўхілу на практыцы, шляхам разгортваньня спаборніцтва і ўдарніцтва на падставе сапраўднае бальшавіцкае крытыкі і самакрытыкі.

П. Бурачэўскі

# Каапэрацыя і транспарт

## Забясьпечыць нармальную працу транспарту, палепшыць абслугоўваньне чыгуначнікаў

У разьвіцьці ўсіх галін народнай гаспадаркі і забесьпячэньні гіганцкіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва транспарт мае вялізарнейшае значэньне. З працай транспарту зьвязаны ўсе важнейшыя вучасткі фронту сацыялістычнага наступу. Усе арганізацыі і ўстановы, якія зьвязаны з працай транспарту і яго абслугоўваньнем, павінны зьвярнуць на апошні сур'ёзную ўвагу і выканаць партыйныя і ўрадовыя дырэктывы ў адносінах працы транспарту і асеньня-зімовых перавозак, як важнейшага і адказьнейшага заданьня.

Каапэрацыя ў ліку першых павінна правесьці шэраг практычных мерапрыемстваў у галіне свайго тавараразвароту, які займае значнае месца ў грузазвароце транспарту, і ў галіне абслугоўваньня транспартнікаў, з чым зьвязана забесьпячэньне іх нармальнай працы.

У галіне свайго тавараразвароту, зьвязанага з грузазваротам транспарту, каапэрацыяй дапушчаецца шэраг ненармальнасьцяй, якія перашкаджаюць нармальнай рабоце транспарту, яго грузазвароту, рацыянальнаму і поўнаму скарыстаньню рухавага складу вагонаў і г. д. Мелі і маюць месца несваячасовыя выгрузкі тавараў. Бываюць выпадкі, калі прыбываючыя таварапрадукты затрымліваюцца на асобных чыгуначных станцыях у працягу доўгага часу выключна па віне каапэрацыі, якая сваячасова іх не выкупляе і не забірае. Такія самыя выпадкі бываюць і ў галіне адправак па чыгунцы с.-г. прадуктаў і сыравіны: патрабуецца падача вагонаў пад пагрузку, а падвозка і пагрузка затрымліваюцца на некалькі дзён. Усё гэта ў адносінах карыстаньня транспартам і забесьпячэньня яго нармальнай працы зьяўляецца недапушчальным і павінна быць рашуча зьнішчана.

У адносінах палепшаньня абслугоўваньня транспартнікаў, згодна апошніх дырэктыў і заданьняў, сыстэмай спажкаапэрацыі павінны былі быць ва ўдарным парадку праведзены арганізацыя зачыненых разьмеркавацеляй, адчыненьне сталовак, буфэтаў і ларкоў з кругласутачнай працай, з прыстасаваньнем свае працы да працы транспарту і яго ўмоу. Павінна было быць арганізавана належнае абслугоўваньне паравозных, праязных і кандуктарскіх брыгад з выдачай дадатковых прадуктаў па ўстаноўленых асобных нормах.

Сампрамкаапэрацыя павінна была сумесна з спажкаапэрацыяй арганізаваць пачынача-рамонтныя майстэрні з забесьпячэньнем абслугоўваньня праз іх транспартнікаў.

Правадзімая праверка выкананьня каапэрацыяй дырэктыў і заданьняў па абслугоўваньню транспартнікаў паказала, што гэтая важнейшая справа недаацэньваецца, шэрагам арганізацый на мясцох вызначаемым мерапрыемствам не надаецца сур'ёзнага значэньня, і правядзеньне іх праходзіць недапушчальна марудна. Асабліва недапушчальныя адносіны праявілі Аршанскі, Бабруйскі і Мазырскі цэрабкоопы ў галіне арганізацыі зачыненых разьмеркавацеляў і сталовак, якія, ня гледзячы на шэраг канкрэтных, сваячасова дадзеных паказаньняў, прыступілі да іх выкананьня толькі ў палове кастрычніка месяца, пры чым некаторыя заданьні значнай часткай арганізацый выкананы фармальна, фактычнае-ж становішча не адпавядае запатрабаваньням. Большасьць ЦРК яшчэ не афармілі працу зачыненых разьмеркавацеляў і ня скончылі прымацаваньне. Зачыненыя

сталоўкі зусім нязначна адрозьніваюцца ад звычайных, не палепшана якасьць іх працы, ня вызначан кантынгент спажыўцоў, ня выдадзены абанэмэнты і г. д. Меў месца шэраг выпадкаў парушэньня норм належачых да выдачы таварапрадуктаў (Ворша) і затрыманьня выдачы цукру праязным брыгадам (Менск). Яшчэ горш справа абстаіць з абслугоўваньнем чыгуначнікаў па лініі. Вагоны-крамы ЦРК рэдка бываюць на асобных станцыях. Асобныя важнейшыя будаўніцтвы на лініі Ворша—Лепель не абслугоўваліся Аршанскім ЦРК, гэтыя важнейшыя абавязкі выконвалі мясцовыя райспажтаварыствы.

Пачыначныя майстэрні недастаткова яшчэ арганізаваны, а існуючыя не здавальняюць запатрабаваньняў чыгуначнікаў.

Адміністрацыя асобных чыгуначных станцый (Жлобін, Бігосава) затрымлівала прадастаўленьне каапэрацыі памяшканьняў, патрэбных для абслугоўваньня чыгуначнікаў.

Мясцовыя прафарганізацыі аказваюць недастатковае садзейнічаньне ў правядзеньні каапэрацыяй практычных мерапрыемстваў па абслугоўваньню чыгуначнікаў, а некаторыя нават не сыгналізуюць аб маючыхся недахопах і прарывах. Няма патрэбнай мабілізацыі ўвагі рабочых і служачых, якія працуюць у каапэрацыі і зьвязаны з працай транспарту.

Белкаапсаюзам у адносінах Аршанскага, Гомельскага, Бабруйскага і Менскага ЦРК вынесена пастанова аб прыцягненьні вінаватых да адказнасьці і аб спагнаньнях.

У далейшым вінаватыя ў невыкананьні альбо парушэньні дырэктыў і заданьняў таксама не павінны заставацца непакаранымі.

У выніку правядзеньня практычных мерапрыемстваў па выкананьню пастаноў ЦК УсеКП(б) у адносінах палепшаньня абслугоўваньня чыгуначнікаў наглядаецца пералом; трэба безадкладна зьнішчыць меўшыя і маючыя яшчэ месца недахопы ў забесьпячэньні абслугоўваньня чыгуначнікаў. Дадзеныя дырэктывы і заданьні трэба абавязкова цалкам выканаць.

В.

# Абвесьцім рашучую барацьбу растратам і растратчыкам

Кожны год пры падвядзеньні вынікаў працы спажыўкаапэрацыі, на вялікі жаль, прыходзіцца падлічаць значныя сумы грошай, прысвоеных тым элемэнтам, які пралазіць у каапэрацыйныя шэрагі і папаўняе сваю кішэню каапэрацыйнымі сродкамі. Гэтыя растратчыкі ўсялякімі мэтадамі і формамі падточваюць каапэрацыйны балянс, падрываючы каапэрацыйную працу, а разам з тым і абслугоўваньне спажыўца. Растратчыкі ня грэбуюць ніякімі мэтадамі: забіраюць грошы з касы, тавары з крам, абважваюць пакупнікаў, прадаюць тавары па падвышаных цэнах, складаюць няправільныя і дутыя акты на брак і псаваньне, робяць падлогі для „афармленьня растраты“ і г. д.

Спрыяючым момантам для растратчыкаў зьяўляецца адсутнасьць кантролю за іх працай. Грамадзкасьць ня мае сталага кантролю над працай каапэрацыйнага апарату, не сыгналізуе аб тых учынках, якія заўважаны ў працы асобных працаўнікоў. Пры наяўнасьці такога кантролю растратчыкі ня мелі-б магчымасьці ў працягу доўгага часу прысвойваць каапэрацыйныя сродкі. Рэўкаміся, пры сучаснай пабудове сеткі, пасьля праведзенага ўзмацненьня спаж.-тав., ня зможа справіцца са сваімі задачамі без дапамогі грамадзкасьці. На дапамогу праўленьню і рэўкамісіі павінны прыйсьці крамкамісіі, рабочыя брыгады, лёгкая кавалерыя і наогул актыў пайнікаў.

Асабліва ў сучасны момант крамкамісіі павінны прыняць актыўны ўдзел у разьмеркаваньні дэфіцытных тавараў, каб папярэдзіць такія выпадкі, якія выяўлены лёгкай кавалерыяй у аднэй з крам Гарадокскага райспажтаварыства, дзе ў прыказчыка дома знойдзены: 2 пары галёш і пара ботаў, 7 кавалкаў падэшвы, а усё гэта павінна было быць разьмеркавана сярод калгасьнікаў. Трэба дэталёва правяраць выдаткаваньне дэфіцытных тавараў. Кожная крама павінна быць абрэвізавана і праверана ня менш аднаго разу ў квартал.

Далей, трэба ўзяцца за палепшаньне пастаноўкі рахункаводзтва. Падлік павінен быць яскравым малюнакам таго, што робіцца ў кожнай краме і на кожным прадпрыемстве. Такія выпадкі, калі бухгальтэрыя адстае на 6—7 месяцаў, павінны быць зьнішчаны ў краме. Мы маем адсталасьць бухгальтэрыі ў значнай колькасьці райспажтаварыстваў, а гэта стварае найлепшую глебу для растрат. У гэтай галіне працы таварыстваў павінны быць прыняты рашучыя захады. Пры такім становішчы бухгальтэрыі немагчыма кіраваць працай райспажтаварыстваў, а таксама ўскладняецца кантроль.

Усе справы па растратах павінны быць безадкладна аформлены праз судовыя органы, якія павінны паскорыць разгляд усіх спраў у дачыненьні да растрат.

Растратчыкам ня месца ў каапэрацыйных шэрагах.

Усе на барацьбу з растратамі растратчыкамі!

---

Сулькіна

# Прыгарадныя гаспадаркі—баявы вучастак працы спажкаапэрацыі

Арганізацыя і разьвіцьцё прыгарадных гаспадарак зьяўляюцца важнейшай гаспадарча-палітычнай задачай спажкаапэрацыі, як мерапрыемствы па пашырэньню харчовых рэсурсаў краіны. Пашырэньнем гэтых гаспадарак выконваецца дырэктыва партыі аб узьняцьці рэальнага ўзроўню зарплаты рабочых шляхам большага ахопу бюджэту рабочых с.-г. прадуктамі.

Прыгарадныя гаспадаркі спажкаапэрацыі БССР у сучасны момант налічваюць 32 адзінкі. У гэтых 32 гаспадарках было засеяна 1047 гэктараў гароднай плошчы, з якіх атрымана 12670 тон гародніны. Ёсьць больш 5000 кароў, адкормлена каля 8000 сьвіней і г. д.

Прыгарадныя гаспадаркі ЦРК, калі ўлічыць параўнаўча невялікі тэрмін іх працы, маюць некаторыя дасягненьні. Усёж гэтыя гаспадаркі зусім не здавальняюць мінімальных запатрабаваньняў па забесьпячэньню рабочых. Па гародніне ЦРК задаволілі патрэбы з сваіх гаспадарак прыблізна на 14 проц., па малаку—на 7 проц.

Трэба зазначыць, што якасныя паказальнікі дадзеных гаспадарак зьяўляюцца ў шэрагу ЦРК зусім нездавальняючымі. Эфэктыўнасьць па гаспадарках, як малочных, так і гародных і сьвінаводных, надзвычайна нізкая, што зьяўляецца вынікам дрэннага догляду. Безгаспадарчая пастаноўка працы, слабы грамадзкі кантроль, недастатковая ўвага саміх ЦРК да гэтага важнейшага вучастку працы даюць сабе адчуваць. Вызначаныя кантрольныя лічбы на будучы год дадуць вялізарныя тэмпы разьвіцьця прыгарадных гаспадарак. Згодна пастановы СНК, гаспадаркам павінна быць адведзена 25000 гэктараў зямлі з умоваю засеяць ня менш 5600 гэктараў гароднай плошчы. Павінна быць пастаўлена 12000 кароў, адкормлена па лініі спажкаапэрацыі 20000 сьвіней. Сьвінаводныя гаспа-

даркі павінны быць укамплектаваны сьвінаматкамі ў ліку каля 11000 матак. Трусаводныя і птушкаводныя гаспадаркі вызначаюцца з капіталаўкладаньнем у гэтыя гаспадаркі каля 13 млн. руб.

Між тым існуючыя тэмпы працы на сёньняшні дзень не забясьпечваюць выкананьня гэтых вялізарных задач. Адвод земляў пад гаспадаркі, правядзеньне ўборочнай кампаніі і зяблевага ўзорваньня ідуць недапушчальна марудна. Гэтыя баявыя задачы сёньняшняга дню, якія ў асноўным вызначаюць выкананьне заданьняў на будучы год, павінны быць праведзены ўдарным парадкам. На выкананьне гэтых задач трэба мабілізаваць увагу прафсаюзаў і ўсяе рабочай грамадзкасьці. Дадзеныя ЦРК заданьні на асобны квартал набываюць асабліва важнае значэньне: на прыгарадныя гаспадаркі ЦРК за гэты пэрыод асыгнавана 3 млн. 105 т. руб. За гэты тэрмін трэба цалкам ліквідаваць маючыся прарывы. Трэба сваячасова правесьці падрыхтоўчую працу па вызначэньню заданьняў і будаўніцтву прыгарадных гаспадарак на будучы год. Трэба рашуча зьнішчыць маючуюся безгаспадарчасьць, дабіцца належнай эфэктыўнасьці прыгарадных гаспадарак ЦРК. Далейшае будаўніцтва прыгарадных гаспадарак трэба праводзіць у строга пляновым парадку: прыняць захады да патаненьня гэтага будаўніцтва, прадугледзець у гэтых плянах максымальную мэханізацыю працэсаў працы. ЦРК ужо павінны прапрацаваць пытаньні і скласьці абгрунтаваныя заяўкі на рабочую сілу для гаспадарак, пытаньні ўганеньня гародаў, насеньня і г. д. ЦРК пры правядзеньні вышэйпаказаных мерапрыемстваў сустракаюцца з вялікімі цяжкасьцямі, як адсутнасьцю рабсілы, транспарту і г. ц.

У сувязі с гэтым ужо цяпер наглядаюцца такія настроі, што ЦРК з гэтай задачай ня справяцца, і ўжо ставяць пытаньні аб зьмяншэньні заданьняў па гароднай плошчы (Барысаўскі ЦРК, Бабруйскі, Менскі, пляновыя камісіі гарсавету і г. д.).

Праўленьні ЦРК павінны даць адпор гэтым настроям. Бясспрэчна, ёсьць нямала цяжкасяцяй, але трэба мабілізаваць, апрача апаратаў ЦРК, усе грамадзкія арганізацыі на дапамогу ЦРК у справе прыгарадных гаспадарак для перамогі гэтых цяжкасьцяй і поўнага выкананьня заданьняў на бягучы год.

Згодна пастановы СНК, прыгарадныя гаспадаркі ў будучым годзе будуць арганізоўвацца ня толькі пры ЦРК, але і пры 40 раённых спажтаварыствах. Тут трэба максымальна скарыстаць мясцовыя магчымасьці, стары будаўнічы матар'ял і інш. Такім чынам, пытаньнямі прыгарадных гаспадарак і пашырэньнем харчовай базы павінна займацца ўся сыстэма спажкаапэрацыі.

Трэба хутчэй пераключыць сваю працу на вытворчую дзейнасьць і гэтым самым выканаць асноўныя дырэктывы партыі і ўраду, пастаўленыя перад спажкаапэрацыяй у галіне разьвіцьця прыгарадных гаспадарак.

**І. Верба**

## Што выявіла чыстка апарату БССР

*(Працяг[1])*

### Загатоўчая дзейнасьць каапэрацыі

Другой вельмі важнай гаспадарчай функцыяй ў сыстэме спажывецкай каапэрацыі зьяўляецца загатоўка сыравіны і сельгаспрадуктаў. Важна яна для нас ня толькі таму, што загатоўчая сыравіна павінна пайсьці для здавальненьня патрэб нашай прамысловасьці і на экспарт, а сельгаспрадукты—для забесьпячэньня рабочых, але і таму, што зага-

[1]) Гл. „Каапэрацыю БССР“, № 6-7.

тоўкі праз сыстэму спажывецкай каапэрацыі павінны ўзмацніць арганізаваную здачу сыравіны, выціснуўшы паўгандлярскі падыход у загатоўках, які яшчэ наглядаецца ў працы шматлікіх загатоўчых арганізацый.

Бясспрэчным зьяўляецца тое, што спажывецкая каапэрацыя ў гэтай галіне мае значныя дасягненьні. Параўнальныя табліцы загатовак з вызначэньнем удзельнай вагі паасобных загатоўчых арганізацый з бясспрэчнай відавочнасьцю паказваюць, што спажывецкая каапэрацыя за апошнія два гады здолела ператварыцца з маленькай загатоўчай арганізацыі ў магутны фактар у справе атрыманьня таварных лішкаў на вёсцы: *у шмат якіх таварах спажывецкая каапэрацыя стала асноўным загатоўцам і дастаўлае дзяржаве 60-70 проц. загатоўленай сыравіны і прадуктаў.*

Але-ж гэтыя дасягненьні зьяўляюцца вельмі мізэрнымі ў параўнаньні з тымі вялікімі запатрабаваньнямі, якія дзяржава і рабочая кляса высоўваюць перад спажывецкай каапэрацыяй. Сыстэма спажывецкай каапэрацыі па шэрагу тавараў, у першую чаргу па загатоўцы сельгаспрадуктаў, мае значныя і вельмі сур'ёзныя прарывы. Пляны па такіх таварах, як мяса, масла, яйкі, выконваюцца ў злачынна слабым разьмеры—10-15-20 проц. па паасобных акругах.

Асноўнай прычынай, чаму так дрэнна выконваюцца пляны па загатоўцы сельгаспрадуктаў, зьяўляецца тое, што Белкаапсаюз і яго сыстэма ня здолелі ператварыць справу загатовак у працу баявой палітычнай важнасьці. *Спажывецкія таварыствы разглядаюць загатоўчыя апэрацыі, як справу чыста камэрцыйнага характару.* Нізавы каапэратар, у першую чаргу, цікавіцца тымі таварамі, якія яму даюць добрыя прыбыткі. *Сыстэма пакуль што яшчэ ня ўвязвае загатоўку з рабочым забесьпячэньнем і з экспартам, а рабочае забесьпячэньне і экспарт—з прамфінпляном і пяцігодкай.* Толькі адсутнасьцю гэтай палітычнай ўвязкі тлумачацца абыякія адносіны паасобных зьвенчакоў каапэрацыі да справы загатоўкі сельгаспрадуктаў.

Чым, калі не апартуністычнай бязьдзейнасьцю, незразуменем палітычнага характару загатовак зьяўляецца такое становішча, пры якім на вачох нізавых каапэратараў гінуць тысячы пудоў каштоўнай гародніны і садовіны, загатоўка якіх для іх „нерэнтабельна“, тым часам як рабочыя цэнтры адчуваюць у гэтых прадуктах вялікую патрэбнасьць?

Такія настроі ў каапэрацыі перашкаджалі апошняй стаць актыўным арганізатарам асноўных мас сялянства ў справе загатоўкі сельгаспрадуктаў для забесьпячэньня гарадоў. Гэтым і тлумачыцца тое, што ўсе дырэктывы Белкаапсаюзу аб грамадзкіх мэтадах загатоўкі па сельгаспрадуктах і другарадных відах засталіся да сёньняшняга дня на паперы. З прычыны фармальных адносін сыстэмы да мабілізацыі грамадзкасьці мы маем асабліва дрэнныя выкананьні (а па некаторых відах нават зрывы) плянаў загатовак і контрактацыі тых тавараў, вакол якіх, *у першую чаргу*, трэба было мабілізаваць грамадзкасьць (зрыў контрактацыі жывёлы, загатоўкі насеньня і г. д.).

Ня менш грунтоўным довадам палітычнага не зразуменьня сельскай каапэрацыяй важнасьці загатовак, як крыніцы здавальненьня рабочых гарадоў, зьяўляецца тое, што загатоўчы апарат спажывецкай каапэрацыі зьяўляецца актыўным удзельнікам у разбазарваньні і асяданьні сельгаспрадуктаў на мясцох. Тое, што было выяўлена ў апошні час ЦКК—РСІ і пракуратурай у Петрыкаве, Старобіне, Копылі, Нароўлі і г. д., факты злачыннага перавыдаткаваньня мяса для здавальненьня мясцовых патрэб (Старобінская сталоўка давала штодзённа мяса, а ў жніўні месяцы г. г. амаль штодзённа па 150 грам на чалавека) найлепш ілюструюць усю

атмасфэру палітычнай безадказнасьці, якая яшчэ пануе ў сыстэме спажывецкай каапэрацыі.

Трэба адзначыць, што ні Белкаапсаюз, ні яго аддзяленьні, на жаль, ня здолелі дабіцца дысцыпліны ў сваіх радох.

Хіба мы ня маем права запытаць праўленьне Белкаапсаюзу, чаму гэта яно само, без дапамогі ЦКК--РСІ і пракуратуры, ня здолела выкрыць у сваім апараце ўсе гэтыя злачынствы і даць па руках вінаватым, каб другім ня было павадна? Адказ можа быць адзін: *апартуністычнае дзяляцтва мае свае карэньні таксама і ў апараце Белкаапсаюзу.*

На глебе дзяляцтва і палітычнага неразуменьня характару загатовак расьцьвіталі гандлярства, канкурэнцыя і іншыя віды капіталістычнага гандлю.

Сыстэма спажывецкай каапэрацыі пакуль што яшчэ ня спыніла ў сваіх радох старых спрэчак з сельскагаспадарчай каапэрацыяй, дзяржгандлем, скурсындыкатам і г. д. Асабліва гэта пачало адчувацца ў адносінах прэм'яваньня здатчыкаў сыравіны іншымі загатоўчымі арганізацыямі. Сотні скаргаў ад розных пунктаў сыстэмы жыўмалкаапэрацыі паступаюць у ЦКК—РСІ, у пракуратуру наконт таго, што загатоўка жывёлы па лініі малжыўкаапэрацыі зрываецца з-за упартага нежаданьня нізавых каапэратараў прэм'аваць іх здатчыкаў-сялян. ЦКК-РСІ камандыравала паасобных працаўнікоў у раёны для высьвятленьня гэтых скаргаў. Неабходна канстатаваць, што пераважная большасьць тых абвінавачваньняў, якія высоўвала сыстэма малжыўкаапэрацыі адносна спажывецкай каапэрацыі, поўнасьцю апраўдалася. У мясным раёне Старобіне спажывецкая каапэрацыя, ня гледзячы на тое, што на яе складах былі прэмыяльныя фонды, упарта адмаўлялася выдаткоўваць іх на патрэбы малочнай каапэрацыі. У выніку гэтых адносін было заўважана тое, што сяляне-здатчыкі жывёлы хадзілі па тры тыдні за прэміяй Гандлярства, злачыннае гандлярства!

У самым апараце Белкаапсаюзу гэтыя гандлярскія мэтады асабліва адчуваліся ў экспартных апэрацыях. Белкаапсаюз затрымліваў здачу хутравіны, рыхтуючы на экспарт выключна з прычыны гандлярскай канкурэнцыі, якая існавала паміж ім і дзяржгандлем. Характэрным зьяўляецца ліст Белкаапсаюзу Цэнтрасаюзу ад 20 студзеня 1930 году, у якім першы піша: „До января месяца *мы тянули* (падкрэсьлена мною—І. В.) с заключением договоров с Госторгбелом на пушнину и сырье. Дальше тянуть мы не имели возможности...“ Альбо тэлеграма Белкаапсаюзу Цэнтрасаюзу наступнага зьместу: „Белнаркомторг передает экспорт Госторгу. Примите меры. Высылайте немедленно приемщика“. Ці ведалі белкаапсаюзаўскія камэрсанты, што яны „цянулі“? *Яны „цянулі“ здачу хутравіны на экспарт, чым затрымлівалі хутчэйшае атрыманьне замежнай валюты.* Канкурэнцыя нават даходзіла да таго, што сыстэма ня ўлічвала ўтылю, здадзенага калгасьнікамі, у замен якога (утылю) БССР павінна атрымоўваць трактары, толькі з прычыны таго, што на квітках надрукаваны штамп іншае загатоўчае арганізацыі.

Захопленыя камэрцыяй загатоўчыя апараты Белкаапсаюзу і сыстэмы не праводзілі амаль ніякай працы па падвышэньню якасьці загатоўленай сыравіны, па рацыянальнай перапрацоўцы і хаваньню яе, у сувязі з чым былі значныя страты. Белкаапсаюз і нізоўка у шмат якіх выпадках падыходзілі да пытаньняў загатовак павярхоўна, без папярэдняй падрыхтоўкі. Белкаапсаюз зусім не падрыхтаваўся да кампаніі загатовак і перапрацоўкі гароднінай сыравіны. У сучасных умовах рабочага забесьпячэньня, пры якіх загатоўкі гародніны і садовіны набываюць важнейшае значэньне, сыстэма не забясьпечана ні інструктажам, ні тэхнічна-вытворчай кансультацыяй, ні тарай. На мясцох гінуць гародніна і садовіна тысячамі пудоў выключна з тае прычыны, што адсутнічае тара, што складзкі апарат

абсалютна не прыстасаваны да гэтых вялізарных разьмераў працы з гароднінай і садовінай, у якой краіна адчувае патрэбу. Белкаапсаюз скардзіцца на тое, што адсутнічаюць бочкі, у той час калі сыстэма на працягу зімы разбазарыла 90 проц. бочачнай тары (заява загадчыка загатоўчага аддзелу Віцебскага райсаюзу тав. Гельцара)

Белкаапсаюз ня прыняў ніякіх захадаў па зьмяншэньню накладных выдаткаў, якія ў спажкаапэрацыі па некаторых таварах значна вышэй, чымся ў іншых загатоўчых арганізацыях (па ільне, яйках і інш.). Белкаапсаюз не займаўся гэтым пытаньнем, і ва ўсёй сыстэме нават няма адзінай калькуляцыі, на падставе якой можна-б было вывучаць і рацыяналізаваць паасобныя працанты загатоўкі, пераапрацоўкі, хаваньня і адгрузак, параўноўваць працу паасобных раёнаў.

Мы можам на гэтай падставе зрабіць зусім бясспрэчныя вывады:

1. Сыстэма спажывецкай каапэрацыі мае дасягненьні ў загатоўках, але-ж яна ня здолелаператварыць загатоўкі ў баявую гаспадарча-палітычную кампанію, мабілізаваць масы і свой апарат вакол задач, як непарыўна зьвязаных з рабочым забесьпячэньнем, так і з выкананьнем прамфінпляну, з выкананьнем пяцігодкі ў чатыры гады.

2. Апалітычна-дзяляцкі характар загатовак перашкаджаў. з аднаго боку, скарыстаньню ўсіх таварных рэсурсаў вёскі для рабочага забесьпячэньня і экспарту, а з другога боку, ствараў глебу для росквіту гандлярства, канкурэнцыі і г. д.

3. Спажывецкая каапэрацыя тэхнічна вельмі дрэнна працуе. Апрацоўка і хаваньне тавараў зьяўляюцца „вузкім месцам" у спажывецкай каапэрацыі. Сыстэма яшчэ не навучылася падрыхтоўвацца сваячасова да сэзону, за некалькі месяцаў раней, і паасобныя прарывы засьцігаюць яе нечакана.

## Фінансы і мабілізацыя сродкаў працоўнага насельніцтва

Фінансавае становішча сыстэмы характарызуецца наступным чынам: сыстэма, ня гледзячы на параўнальна фінансавую моцнасьць (процант уласных сродкаў спажтав-стваў у звароце складае 53), адчувала ўсё-ж часта сур'ёзныя фінансавыя цяжкасьці. Асноўнай і амаль адзінай прычынай зьяўляюцца фінансавая расхлябанасьць і недысцыплінаванасьць сыстэмы, адсутнасьць якой-бы то ні было працы па мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў.

Кантрольныя лічбы на 28-29 г. па мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў і максымальнаму вызваленьню дзяржаўных сродкаў засталіся ня выкананымі: таварныя астачы па ЦРК у днёх звароту павінны былі быць даведзены да 32, фактычна—43,5, па спажтаварыствах—да 28, фактычна—41, дэбіторы па ЦРК—да 7,4, фактычна—14,9, па спажтаварыствах да 3, фактычна—12,6 і г. д. Але становішча пагаршаецца яшчэ тым, што ня толькі прадугледжаныя тэмпы кантрольных лічбаў не рэалізаваны, але-ж нават дасягненьні 27-28 г. ня ўтрыманы: на I/X—28 г. таварныя астачы ў днёх звароту складалі 31,9, а на I/X—29 г.—36,7; дэбіторы з 1700 тысяч вырасьлі да 3.044 тыс., г. зн., на 80 проц.

Сыстэма, праявіўшы поўную расхлябанасьць у мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў, дапусьціла таксама буйныя прарывы ў адносінах мабілізацыі сродкаў у насельніцтва. Сыстэма не дабрала за 1-ую палову 29-30 г. 1526 тысяч па паёх і 600 тысяч руб. па ўкладах і авансах (на I/VI-30 г.). Сума сабраных укладаў і авансаў па спажтаварыствах нават зьніжаецца: на I/V было 700, на I/VI—608 тысяч.

Яшчэ горш стаіць справа з выкананьнем якасных паказальнікаў

па мабілізацыі сродкаў насельніцтва, асабліва па паянамнажэньні. У гэтай галіне ёсьць вельмі сур'ёзныя прарывы—спагнаньне паёў ідзе па шляху найменшага супраціўленьня. Асноўны націск у спагнаньні паёў зроблен на бядняцкія элемэнты—яны ўнесьлі на I/I-30 г. 71 проц. статутнага паю, серадзякі—50 проц., а кулакі (тады яшчэ члены каапэрацыі)—толькі 60 проц. Райсаюзы ня толькі не змагаліся энэргічна з такімі зьявішчамі, але і самі дапусьцілі шэраг грубых права-апартуністычных памылак (Гомель даў дырэктыву аб спыненьні водпуску тавараў *усім* пайнікам, не папоўніўшым пай, у той час калі беднята ўнесла 79 проц. паёў, а серадзякі—толькі 57 проц.

Наогул у сыстэме наглядалася шмат фактаў грубога скажэньня клясавай лініі ў пытаньні правядзеньня клясава-дыфэрэнцыяванага паю і паянамнажэньня (адміністрацыйна-эканамічны націск на беднату, скарыстаньне фондаў каапэраваньня бедняты на каапэраваньне серадзякоў і нават кулакоў і г. д.). Гэтыя грубыя скажэньні ў шмат якіх выпадках сустрэлі прымірэнцкія адносіны да іх з боку райсаюзаў і аддзяленьняў (Полацак, Мазыр, Гомель). Белкаапсаюз ня меў ніякага сыстэматычнага нагляду і кантролю за гэтай справай. Вынікі абсьледваньня па гэтым пытаньні нават не заслухоўваліся на праўленьні з прычыны „адсутнасьці часу". Белкаапсаюз запрасіў з месц зьвесткі аб фактах скажэньня клясавай лініі, якія, па атрыманьні, прышываліся да справы. Асноўнай прычынай прарываў ў галіне мабілізацыі сродкаў працоўных зьяўляецца тое, што сыстэма арыентавалася выключна на самацёк, на паянамнажэньне праз „таварныя фонды". Палітычнай растлумачальнай работы па паянамнажэньні, увязанай з задачамі па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і індустрыялізацыі краіны, амаль не вялося.

Рацыяналізатарская праца ў адносінах паскарэньня тавараззвароту, скарачэньня шляхоў таварапрасоўваньня, скарачэньня выдаткаў звароту, палепшаньня клясавай справы і г. д. амаль не вялася. Белкаапсаюз нават не вывучаў пытаньня выдаткаў звароту, ня гледзячы на тое, што становішча было вельмі нездавальняючае. Пакупная цана тарнай адзінкі першага зьвяна, Белкаапсаюзу, праходзячы праз райсаюзы, аддзяленьні і спажтаварыствы да спажыўца, павялічваецца на 25,72 проц., а ў горадзе—на 19,5 проц., пры гэтым у гарадзкіх сэктарох ёсьць нават павялічэньне выдаткаў звароту з 18,53 у 27-28 г. да 19,5 у 28-29 г. Пры аналізе элемэнтаў выдаткаў відаць, што ў горадзе асабліва вырастаюць гандлёва-адміністрацыйныя выдаткі (з 12,51 да 14,06). Кантрольныя лічбы, зразумела, ня выкананы, і гэта значна адбілася на фінпляне сыстэмы. Адзін толькі рост выдаткаў па гарадзкому сэктару на 1 капейку з рубля абыходзіцца прыблізна ў 725 тысяч рублёў у працягу году.

У дачыненьні да растрат мы маем павялічэньне іх.

Прычыны павялічэньня растрат у большай сваёй частцы тлумачацца зусім слабой барацьбой у гэтым напрамку. Гомельскі ЦРК, ня гледзячы на рост растрат, не аддаў ніводнага растратчыка пад суд. Ня толькі у Гомелі, а і па ўсёй сыстэме шмат растратчыкаў не прыцягвалася да адказнасьці. На вялікую суму растрат не прад'яўлены іскі. У судовых органах справы затрымліваюцца на доўгі час, месцамі на год-два. Галоўнай прычынай зьяўляецца тое, што барацьба з растратамі ня была ператворана ў палітычную кампанію, ня было ніводнага паказальнага працэсу, грамадзкасьць ня была мабілізавана. Абсьледваньне выкрыла, што асобы, якія сыстэматычна растрачвалі каапэрацыйныя сродкі, заставаліся непакаранымі і пераводзіліся з аднае пасады на другую, дзе яны зноў рабілі растраты (Полацак, Гомель і г. д.). Эфэкт ад працы рэвізійных камісій вельмі слабы,

а інструктарскія рэвізіі ўтвараліся ў сярэднім па 1 рэвізіі спажаварыстваў у 2-3 гады. Белкаапсаюз у барацьбе з растратамі далей рэзалюцый амаль што не пайшоў.

### Нашы вывады

1. У фінансавай працы сыстэмы ёсьць вялікія прарывы. Яны тлумачацца, галоўным чынам, тым, што Белкаапсаюз і ў гэтай галіне дзейнасьці ня здолеў ператварыць справу мабілізацыі сваіх рэсурсаў і сродкаў працоўных мас у палітычнабаявую кампанію па вызваленьні дзяржаўных сродкаў са звароту каапэрацыі на ўзмацненьне фінансавай базы пяцігодкі.

2. Сыстэма ня толькі ня мае амаль ніякіх дасягненьняў у справе мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў, але нават і ня здолела на шмат якіх вучастках фінансавай працы захаваць тэмпы 27/28 г.

3. Растраты, вялізарныя разбазарваньні ў каапэрацыі працягваюцца. Каапэрацыйная грамадзкасьць не мабілізавана вакол барацьбы з гэтымі злачынствамі. Рэзалюцыі Белкаапсаюзу, каапэрацыйных зьездаў, якія не справаджаліся канкрэтнымі дзеяньнямі, ня спынілі працэсу раскрадваньня каапэрацыйнай маемасьці.

(Канец будзе)

# Рабочае забесьпячэньне—на агляд

Б. Малаў

## За добраякасны хлеб

Барацьба за пяцігодку, барацьба за прамфінплян цесна ўвязаны з харчаваньнем рабочага.

Добраякасны хлеб умацоўвае барацьбу рабочага за прамфінплян, а дрэнны хлеб тармозіць гэту працу. Таму барацьба за якасьць хлеба набывае вялікае палітычнае значэньне.

Той, хто не разумее гэтага, хто ня бачыць барацьбы за палепшаньне якасьці хлеба, а займаецца спасыланьнем на дрэнную муку, на дрэнныя абсталяваньні пякарняў і заводаў і на іншыя аб'ектыўныя цяжкасьці, ня хоча весьці барацьбу за пяцігодку і становіцца правым апартуністым на практыцы.

У сучасны момант праводзіцца месячнік агляду печанага хлеба, які праходзіць пры значным узросьце забесьпячэньня працоўнага насельніцтва печаным хлебам праз пякарні і хлебазаводы спажывецкай каапэрацыі. 100-проц. ахоп арганізаванага насельніцтва печаным хлебам ў большасьці гарадоў БССР, далейшае пашырэньне будаўніцтва пякарняў і заводаў ставяць, як ніколі, перад працаўнікамі па хлебапячэньню БКС, ЦРК і гарайСТ сур'ёзную задачу ў бліжэйшы тэрмін распрацаваць шэраг мерапрыемстваў. Гэтыя мерапрыемствы павінны выходзіць з дырэктыў партыі аб рэарганізацыі кіраўніцтва прамысловасьцю і асабліва палепшаньні якасьці выпякаемых вырабаў.

Якасьць выпякаемых вырабаў за апошні час катастрафічна панізілася. Па даных ДХІ, нестандартнасьць хлеба па асобных ЦРК дасягае 80 проц. і характарызуецца наступным чынам:

| ПА МЕСЯЦАХ | Менск | | Гомель | | Віцебск | | Бабруйск | | Магілеў | | Ворша | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Станд. у % | Нестанд. у % | Станд. у 0/0 | Нестан у % | Станд. у 0/0 | Нестанд. у 0/0 | Станд. у 0/0 | Нестанд. у 0/0 | Станд. у 0/0 | Нестанд. у 0/0 | Станд. у 0/0 | Нестанд. у 0/0 |
| Люты | 97 | 3 | — | — | 45 | 55 | — | — | 14 | 86 | — | — |
| Сакавік | 90 | 10 | — | — | 27 | 73 | — | — | 10 | 90 | — | — |
| Красавік | 63 | 37 | 14 | 86 | 35 | 65 | 21 | 79 | 14 | 86 | 29 | 71 |
| Май | 64 | 36 | 18 | 82 | 20 | 80 | — | — | 40 | 60 | 10 | 90 |
| Чэрвень | 39 | 61 | 33 | 67 | — | — | — | — | 60 | 40 | 43 | 57 |
| Ліпень | 24 | 76 | 31 | 69 | 20 | 80 | — | — | 31 | 69 | 30 | 70 |
| Жнівень | 52 | 48 | 15 | 85 | 30 | 70 | — | — | 38 | 62 | 50 | 50 |
| Верасень | 55 | 45 | 22 | 78 | — | — | — | — | 80 | 20 | 76 | 24 |

У сваёй большасьці хлеб нестандартны па вільготнасьці; гэты недахоп пры добрым кіраўніцтве з боку ЦРК і адміністрацыі хлебапякарных прадпрыемстваў можна зьнішчыць і даць спажыўцу добраякасны печаны хлеб. Гэтага магчыма дабіцца, і гэту задачу патрэбна паставіць перад усімі пекарамі і працаўнікамі па хлебапячэньню ў часе правядзеньня месячніку за палепшаньне якасьці выпякаемых вырабаў.

Адначасова месячнік па агляду павінен давесьці да мінімуму брак, які па гарадох БССР у сярэднім штомесячна дасягае 1,5 проц., альбо 7 тон печанага хлеба, і ідзе ў продаж па паніжанай цане, замест нармальнага браку—0,5 проц.,

Хлеб у агульным звароце ЦРК займае яшчэ толькі 3 проц., вось чаму ЦРК амаль не зварачаюць ніякай увагі на хлебапякарную прамысловасьць і ня кіруюць ёю. Няўважлівасьць пацьвярджаецца невыкананьнем ЦРК шмат якіх пастаноў праўленьня БКС і дырэктыў прамсэктару па пытаньні палепшаньня становішча хлебапякарнай прамысловасьці. У часе правядзеньня месячніку агляду ўся грамадзкасьць, зацікаўленыя арганізацыі і ў першую чаргу рабочыя хлебапёкі, адміністрацыя і спэцыяльныя працаўнікі хлебапякарнай прамысловасьці павінны прымусіць кіраўніцтва ЦРК, гаррайСТ павярнуцца тварам да хлебапячэньня і даць спажыўцу танны і добраякасны печаны хлеб.

Месячнік агляду павінен прайсьці пад пунктам погляду выкананьня рашэньняў усесаюзнай і ўсебеларускай нарад па хлебапячэньню і пастаноў праўленьня БКС, ЦРК і райСТ, паколькі гэтыя дырэктывы знайшлі свой адбітак у штодзённай працы хлебапякарнай прамысловасьці.

Трэба выяўляць тых, хто ігнаруе гэтыя рашэньні і не жадае праводзіць іх у жыцьцё, прыцягваць да адказнасьці ня толькі рабочых, якія выпускаюць нядобраякасную прадукцыю, але і тых, хто непасрэдна кіруе гэтаю працаю. Толькі такім чынам мы зможам з упэўненасьцю сказаць спажыўцу, што мы забясьпечым яго добраякасным хлебам і гэтым самым падвысім рэальны ўзровень зарплаты.

Ня гледзячы на тое, што дырэктывы па правядзеньні месячніку па агляду якасьці печанага хлеба былі сваячасова дадзены па ЦРК з боку прамсэктару БКС і Ўсебеларускага камітэту па саюзу харчавікоў, паступаючыя зьвесткі з месц гавораць аб тым, што гэта праца яшчэ не ўзварушла рабочых хлебапёкаў і ўсяе грамадзкасьці, што адпаведныя арганізацыі ня ўключыліся ў правядзеньне агляду. Таксама адстае ў гэтай працы і штаб па правядзеньні месячніку за якасьць пры ЦП саюзу харчавікоў.

Асноўнымі задачамі ўсебеларускага агляду па якасьці печанага хлеба павінны быць:

а) шырокі масавы агляд існуючай сеці хлебазаводаў і пякарняў, а таксама вывучэньне новых форм і распаўсюджваньне іх на палепшаньне якасьці хлеба;

б) рашучы пераход у наступ за якасьць печанага хлеба, за арганізацыю новых форм грамадзкага кантролю ў выпечцы хлеба;

в) паставіць усё грамадзкае хлебапячэньне пад масавы сталы кантроль і самакрытыку як рабочых пякарняў, так і спажыўца;

г) уцягнуць у агляд як мага больш рабочых, служачых і іх сем'яў у гарадох, калгасьнікаў і іх сем'яў у вёсцы.

Правядзеньнем шырокага масавага агляду мы павінны дасягнуць:

а) палепшаньня якасьці печанага хлеба ня толькі на час агляду, але і надалей;

б) аднае продажнай цаны на хлеб па ўсіх ЦРК і райСТ, устанаўленьня нармальных норм выпрацоўкі і нагрузкі працай 8 гадз. рабочага дню;

в) выкананьня пастаноў вытворчых нарад, у першую чаргу тых, якія датычацца палепшаньня якасьці хлеба;

г) выкананьня дырэктыў па зьніжэньні сабекошту хлебных вырабаў;

д) плянавага і бесьперабойнага забесьпячэньня крам печаным хлебам;

е) устанаўленьня строгага кантролю над прасейваньнем мукі, якая ідзе для выпечкі хлеба;

ж) прыстасаваньня і набыцьця адпаведнага транспарту для перавозкі хлебных вырабаў;

з) зьнішчэньня антысанітарнага становішча на пякарнях і хлебазаводах;

і) прыцягненьня кваліфікаванай часткі рабочых хлебапёкаў да ўдзелу ў лябараторнай працы (там, дзе ёсьць лябараторыі).

Будзем спадзявацца, што цэнтральны штаб і мясцовыя штабы справяцца з задачамі, пастаўленымі перад аглядам якасьці печанага хлеба, прыцягнуўшы да шырокага ўдзелу грамадзкасьць.

П. Рубін

# Зачыненыя разьмеркавацелі—асноўная форма рабочага забесьпячэньня

„Палепшыць працу снабжэнчаскай сеткі, асабліва па лініі спажывецкай каапэрацыі“—такая пастанова XVI партыйнага зьезду, і яна павінна быць выканана з колькаснага і якаснага боку, а таксама і з боку тэхнікі працы.

Адозва ЦК УсеКП(б) ад 3/IX прапануе спажывецкай каапэрацыі, у мэтах палепшаньня арганізацыі разьмеркаваньня, разгарнуць тыя формы яго, якія галоўным чынам забясьпечваюць інтарэсы вытворчых рабочых: зачыненыя разьмеркавацелі, прымацаваньне да магазынаў і г. д.

Лёзунг „зачыненыя разьмеркавацелі—аснова рабочага забесьпячэньня“, высунуты „Праўдой“ і падхоплены шырокай рабочай грамадзкасьцю ўсяго Саюзу, павінен быць ажыцьцёўлены самымі баявымі тэмпамі і ў найбольш рацыянальнай форме.

Чым жа выклікана неабходнасьць хуткага пераходу да новых форм забесьпячэньня, і якія яго мэты?

Часовае напружанае становішча ў галіне забесьпячэньня дыктуе неабходнасьць жорсткай барацьбы са злоўжываньнямі дэфіцытнымі таварамі і прадуктамі, з іх перавыдатканьнем і правядзеньня цьвёрдай і вызначанай клясавай лініі разьмеркаваньня. Задачы індустрыялізацыі краіны і выкананьня прамфінпляну патрабуюць ад каапэрацыі перш за ўсё найбольш поўнага забесьпячэньня асноўных прамысловых груп і стварэньня найбольш спрошчаных і рацыянальных форм разьмеркаваньня.

Існуючая форма разьмеркаваньня зьяўляецца нерацыянальнай, бо праведзеная па шэрагу гарадоў БССР агульная сыстэма прымацаваньня пайнікаў да магазынаў была бяссыстэмная і няцьвёрдая, кантынгент прымацаваных быў living разнашэрсты, а належны кантроль адсутнічаў. Па большасьці-ж гарадоў гэтае прымацаваньне не праведзена. І што-ж мы маем? Па-першае, чаргі: рабочы для атрыманьня сваіх прадуктаў павінен траціць шмат часу ў чарзе побач з іншымі спажыўцамі; па-другое, пры такой форме разьмеркаваньня ў значнай меры ўскладняецца кантроль, а дэфіцытныя тавары пападаюць чужому элемэнту і значна перавыдаткоўваюцца, што парушае магчымасьць пляновага і першачарговага забесьпячэньня рабочага.

Зачыненыя разьмеркавацелі зьяўляюцца тэй новай формай забесьпячэньня, якая павінна скасаваць паказаныя адмоўныя моманты і ажыцьцявіць сапраўды клясавы прынцып. Новая форма разьмеркаваньня павінна забясьпечыць у першую чаргу і цалкам асноўныя прамысловыя групы рабочых. Пры гэтай сыстэме магчыма ўстанавіць сапраўдны рабочы кантроль над разьмеркаваньнем дэфіцытных тавараў, скасаваць чаргі і рацыяналізаваць працу.

Пры арганізацыі зачыненых разьмеркавацеляў узьнікае пытаньне, які прынцып пакласьці ў аснову арганізацыі: вытворчы або тэрытарыяльны. Бязумоўна, самым лепшым тыпам разьмеркавацеля зьяўляецца вытворчы. Гэта значыць, што зачынены разьмеркавацель абслугоўвае рабочых выключна 1 або 2—3 вытворчых прадпрыемстваў, у раёне якіх знаходзіцца разьмеркавацель. Аднак, ва ўмовах Беларусі немагчыма арганізаваць разьмеркавацелі выключна па вытворчаму прынцыпу. Трэба дапускаць арганізацыю зачыненых разьмеркавацеляў і тэрытарыяльнага тыпу для абслугоўваньня рабочых розных вытворчых прадпрыемстваў, якія жывуць у рабочым пасёлку або гарадзкім раёне.

Зачыненыя разьмеркавацелі павінны абслугоўваць усіх рабочых і служачых адпаведных прадпрыемстваў і членаў іх сем'яў. Зразумела, што пры гэтым неабходна захоўваць існуючыя нормы і прынцыпы прадастаўленьня пайнікам адпаведных пераваг.

Аднак, адно толькі „зачыненьне“ разьмеркаваццеля ні ў якім разе не вырашае пытаньня. Перш за ўсё пытаньне аб самой арганізацыі разьмеркаваццеляў трэба ўзгадніць з прафарганізацыямі і ўсебакова абмеркаваць яго на рабочых сходах. Гэта ў значнай меры палегчыць працу разьмеркаваццеля і ўзмоцніць грамадзкі кантроль над ім.

Далей неабходна адвесьці для разьмеркаваццеля лепшае памяшканьне і належным чынам прыстасаваць яго. Гэты момант зьяўляецца вельмі важным для забесьпячэньня рацыянальнай і правільнай працы разьмеркаваццеля.

Ня менш важным момантам зьяўляецца забесьпячэньне зачыненага разьмеркаваццеля спрактыкаваным і кваліфікаваным штатам. Праўленьне каапэратыву павінна перакінуць у разьмеркавацель лепшых, грамадзкасьвядомых і тэхнічна-кваліфікаваных прадаўцоў, каб забясьпечыць магчымасьць сапраўднай рацыяналізацыі працы і палепшаньня абслугоўваньня рабочага-спажыўца.

Добра прыстасаванае памяшканьне і кваліфікаваны штат дазваляюць рацыяналізаваць працу, скасаваць чаргі, павялічыць нагрузку і гэтым самым паменшыць выдаткі.

Працу зачыненага разьмеркаваццеля трэба паставіць так, каб рабочы-спажывец адразу адчуў палепшаньне свайго абслугоўваньня. Неабходна ўстанавіць стопроцантную фасоўку сыпучых тавараў. Зачынены разьмеркавацель павінен быць паказальным магазынам. Сыстэму папярэдніх заказаў неабходна разгарнуць да максымуму. Гэта дасьць магчымасьць зрабіць працу работнікаў разьмеркаваццеля шчыльнай і скасаваць чаргі. Таму неабходна ўсямерна папулярызаваць сыстэму папярэдніх заказаў, каб рабочы-спажывец карыстаўся ёю ў найбольшай меры. Папярэднія заказы трэба прымаць як у самым разьмеркаваццелі, так і на фабрыцы ў цэху праз асобных упаўнаважаных. Мэтазгодна ўстанавіць спэцыяльныя скрыні для апусканьня запоўненых спажыўцамі блянкаў-заказаў, якія пэрыодычна вымаюцца асобным працаўніком разьмеркаваццеля. Для таго, каб рабочы-спажывец заўсёды быў у курсе таго, якія тавары ёсьць у наяўнасьці і маюць паступіць у разьмеркавацель, трэба сваячасова вывешваць адпаведныя аб'явы на спэцыяльных дошках у самым разьмеркаваццелі і ў цэхах.

У залежнасьці ад аб'ёму працы папярэднія заказы загатаўляюцца і дастаўляюцца спажыўцу з разьмеркаваццеля або са спэцыяльнай базы. Заказы могуць дастаўляцца на фабрыку да часу сканчэньня работы і проста на дом спажыўцу. У тых мясцох, дзе абслугоўваемыя разьмеркаваццелем рабочыя жывуць у спэцыяльных пасёлках або жактах, заказы дастаўляюцца туды, дзе яны разьмяркоўваюцца паміж асобнымі спажыўцамі спэцыяльна ўпаўнаважанай асобай. Нарэшце, можна прымяняць і парадак здачы заказаў непасрэдна ў разьмеркавацель, куды спажывец прыходзіць за імі.

Трэба папулярызаваць такі парадак папярэдніх заказаў: раніцай, калі рабочы ідзе на работу, ён пакідае ў разьмеркаваццелі свой заказ, які загатаўляецца да моманту сканчэньня працы, а ідучы дамоў, рабочы забірае заказ.

Працу трэба паставіць так, каб 60-70 проц. звароту рабілася па папярэдніх заказах, а 30-40 проц.—з дастаўкай на дом.

Які асартымэнт павінен быць у разьмеркаваццелі: прадуктовы, зьмешаны або унівэрсальны? Вельмі мэтазгодна, каб у разьмеркаваццелі былі побач з прадуктовымі таварамі і асноўныя прамтавары. Аднак, гэта не заўсёды магчыма выканаць. Зразумела, што ў першую чаргу ў разьмеркаваццелі павінен быць неабходны прадуктовы асартымэнт. Хлеб, мяса і плода-гародніну трэба адпускаць са спэцыяльных аддзяленьняў або дапаможных памяшканьняў (ларкі, крамы). Пры тым у дачыненьні да апошніх прадуктаў трэба прадастаўляць прымацаваным да разьмеркаваццеля спажыўцом права карыстацца і іншымі, больш зручнымі для іх крамамі.

Апроч прадуктовага асартымэнту, трэба арганізаваць спэцыяльнае

аддзяленьне масавай галянтарэі і пашыраных пасудна-гаспадарчых тавараў. Арганізацыя продажу абутку і мануфактуры апраўдае сябе ў меншай меры, а таму ўтвараць гэты аддзел немэтазгодна. Тут можна скарыстаць парадак пэрыодычнай дастаўкі ў разьмеркавацель пэўнай колькасьці гэтых тавараў для раздачы. Больш мэтазгодна прымацоўваць вызначаныя абутковыя і мануфактурныя магазыны да адпаведных прамысловых прадпрыемстваў. Гатовае адзеньне і мэблю трэба адпускаць з агульных магазынаў.

Вялікае значэньне мае належнае разгортваньне рабочай грамадзкасьці вакол зачыненых разьмеркавацеляў. Трэба дабіцца ўзмоцненай ўвагі рабоце разьмеркавацеля з боку фабкому. Каапбюро і крамныя камісіі павінны быць пераабраны, і пры іх трэба ўтварыць актыў з пайнікаў. У крамную камісію павінна быць абрана пэўная колькасьць жонак рабочых. Неабходна ўстанавіць выбарнасьць загадчыка разьмеркавацеля і яго намесьніка. Далей, неабходна ўстанавіць пэрыодычную справаздачнасьць загадчыка перад фабкомам, каапактывам і рабочымі фабрыкі.

Зачынены разьмеркавацель, які павінен палепшыць абслугоўваньне рабочага, дае магчымасьць ўзмацніць рабочы кантроль над разьмеркаваньнем тавараў. Гэтага можна дасягнуць дзякуючы строгаму прынцыпу прымацаваньня да разьмеркавацеля рабочых адпаведных прадпрыемстваў. Прымацаваньне трэба рабіць выключна па візе каапбюро: гэта гарантуе разьмеркавацель ад засьмечаньня іншымі, ня зьвязанымі з абслугоўваемым прадпрыемствам асобамі. На падставе вестак аб прымацаваньні праўленьне павінна прымаць усе меры да пляновага забесьпячэньня разьмеркавацеля. Гэтыя ж весткі даюць магчымасьць спэцыяльным рабочым брыгадам і каапактыву сурова сачыць за правільнасьцю разьмеркаваньня.

---

**Нісенбаум**

## Палепшыць справу хлебапячэньня

Пры абсьледваньні Віцебскага і Полацкага ЦРК быў выяўлены цэлы шэраг недахопаў. У справе хлебапячэньня Віцебск зьяўляецца бяспрытульным. Заўважаецца недастатковае кіраўніцтва з боку праўленьня ЦРК: на паседжаньні праўленьня ні разу ня было пастаўлена пытаньне аб становішчы хлебапячэньня, кіраўніцтве загадчыкаў хлебапякарняў і аб становішчы гэтых пякарняў. Віцебскі ЦРК мае ў сваім распараджэньні 7 пякарняў, але ні ў воднай пякарні няма ўнутранага распарадку. Адсутнічае прамфінплян, і гэта ў той час, калі ў Віцебску выпякаецца хлеба на суму 2 міл. руб. у год. Толькі ў гэтым месяцы быў складзены прамфінплян. Ва ўсіх пякарнях адсутнічае адзінаначальле. Чаляднікі не падначальваюцца распараджэньням майстраў у часе работы. З боку загадчыкаў пякарняў заўважаецца хвасьцізм.

Наглядаўся выпадак, калі Дзяржбракеражам быў складзены акт на дрэнную выпечку хлеба. Загадчык пякарняй тав. Хацерынаў пашоў ў праўленьне ЦРК апэляваць гэта. Няма пляновага забесьпячэньня хлебам палатак. Крамы не прымацаваны да пякарняў. Былі выпадкі, што ў магазынах ня было хлеба, у той час калі пякарні былі завалены хлебам, і загадчыкі пякарняў павінны былі спыніць працу з гэтае прычыны. У пякарнях бываюць выпадкі, калі рабочыя затрымліваюць выпечку хлеба з-за адсутнасьці мукі, з транспартам таксама справа абстаіць ня зусім добра. Бываюць выпадкі, калі для дастаўкі хлеба бяруцца падводы з-пад гною. Ёсьць выпадкі недавыпрацоўкі выпечкі хлеба з-за адсутнасьці солі ў пякарні.

У пякарнях 1, 2, 4 няма цьвёрдага штату рабочых, што адбіваецца

на працы пякарні: рабочы ідзе да хаты і ня ведае, калі яму прыходзіць на працу.

У другой пякарні рабочымі было прапанавана зрабіць павець на дровы. Дровы ляжаць на вольным паветры і таму заўсёды сырыя, што ўскладняе працу і адбіваецца на якасьці хлеба. Адміністрацыя пякарні няўважліва аднеслася да прапановы рабочых і ня выканала яе.

Сярод часткі рабочых пякарні наглядаецца супольная парука, і таму нельга высьветліць тае ці іншай прычыны недахопаў у працы пякарні. На шырокай нарадзе заўкому разам з прафактывам, дзе стаяла пытаньне аб маім абсьледваньні, рабочыя выказаліся аб інструктару Цэнтрасаюзу тав. Мухіне, які, прыехаўшы для абсьледваньня, зусім не зацікавіўся работай пякарні і паехаў назад.

У пятай пякарні няправільна расчыняюць квас. Рабочыя ставяць яго на мочаным старым хлебе, з прычыны чаго псуецца шмат хлеба. Ад такога квасу атрымліваецца шкодны хлеб для харчаваньня, бо ў ім большая кваснасьць, чым трэба.

У Полацкім ЦРК таксама заўважаны нядбайныя адносіны да пытаньня хлебапячэньня. Зробленае абсьледваньне інструктарам Белкаапсаюзу т. Малавым выявіла шэраг недахопаў: асобная частка рабочых у кандытарскім цэху не атрымлівае правільна зарплаты: і майстар і чаляднік атрымліваюць па 10 му разраду.

Пасьля зробленага абсьледваньня быў дадзены цэлы шэраг канкрэтных прапаноў для зьнішчэньня ўсіх гэтых ненармальнасьцяй і недахопаў у справе хлебапячэньня.

Любчанскі

# Прарыў у Барысаўскай пякарні ЦРК

У Барысаўскай пякарні ЦРК прамфінпляну зусім няма, а на 30-31 год ён складзен і знаходзіцца ў загадчыка пякарні. Складзеныя лічбы, згодна прамфінпляну, зьяўляюцца нерэальнымі, бо ў пякарні не праведзен 6-гадзінны рабочы дзень.

Па пытаньнях месячніку якасьці мы назіраем тое, што матар'ялы, дасланыя Белкаапсаюзам, зусім не распрацаваны.

На запытаньне, заданае загадчыку пякарні тав. Лубкову, чаму ня прынята ніякіх мер па месячніку, ён адказаў, што матар'ял па гэтым пытаньні знаходзіцца ў праўленьні, а пры праверцы я знайшоў гэты матар'ял у яго паперах. Толькі ў апошні час Барысаўская пякарня ўключылася ў паход за якасьць хлеба, распрацавала плян працы і прыступае да яго разгортваньня.

Наогул становішча хлебапякарні агіднае. На падводах з-пад гною возяць хлеб у крамы. Хлеб утрымліваецца ў крамах у антысанітарным выглядзе, і ніякіх мер для зьнішчэньня ўсіх гэтых ненармальнасьцяй ня прымаецца, апал знаходзіцца пад дажджом і гніе, бо няма павеці. Пакою для харчаваньня рабочых няма, і таму рабочыя сядзяць і ядуць на скрынках, дзе выпрацоўваецца хлеб, кураць у пякарнай залі, з прычыны чаго часта можна знайсьці ў хлебе акуркі, анучкі, галавы ад селядцоў.

Узаемаадносіны паміж рабочымі і адміністрацыяй напружаныя, што таксама перашкаджае працы пякарні. Дырэктывы адміністрацыі ня выконваюцца, адзінаначальле зусім адсутнічае. На кожную дробязь трэба атрымаць дазвол праўленьня ЦРК, пастанова праўленьня (напрыклад, пастанова праўленьня ад 12/X аб палепшаньні транспарту, абсталяваньні пакою для харчаваньня і г. д.) самім праўленьнем таксама ня выконваецца.

У пякарні працуюць сталыя п'яніцы, якія зрываюць работу, яны шмат

разоў звальняліся, а пасьля іх зноў прымалі на працу. Так, рабочы Ходзікаў быў некалькі разоў звольнены за п'янства, а адміністрацыя яго зноў прыняла на працу.

У пякарні адсутнічае працдысцыпліна, наглядаюцца прагулы, п'янства, курэньне і г. д. На працягу 4-х месяцаў групком не абслугоўваў прадпрыемства з прычыны ад'езду на працу ў вёску старшыні групкому, у працягу гэтага часу групком быў зусім зачынены.

Вытворчая нарада за гэты час ня была склікана, няма калькуляцыі хлеба, і ня ведаюць, колькі ён сабе каштуе.

Наогул, няма зацікаўленасьці з боку праўленьня па гэтых пытаньнях. Трэба ўзварушыць адміністрацыю, каб яна выканала дырэктыву БКС па хлебапячэньню.

М Б-к

## Праца Менскага хлебазаводу

Ступень сёлетняй нагрузкі хлебазаводу, у параўнаньні з 1928-29 г., значна ўзрасла. Калі ў 28-29 годзе высоўныя печы рабілі 4-5 зваротаў у зьмену, альбо ў адзін працоўны дзень у сярэднім 14½ зваротаў, дык у 1929-30 г. звароты дасягаюць 22-23 ў працоўны дзень, бараначная-ж, якая прапускала 20-22 тысячы баранак у зьмену ў 1928-29 годзе, цяпер прапускае 34-35 тысяч штук у зьмену пры той жа колькасьці рабочай сілы

Хлебазавод па выпускаемай прадукцыі ў 1929-30 г. быў загружаны ў першым паўгодзьдзі на 80 проц., у другім паўгодзьдзі—на 90 проц. супроць выпушчанай прадукцыі ў верасьні месяцы г.г. Верасьнёўскія лічбы 1930 году выпушчанай прадукцыі магчыма лічыць максымальнымі, улічваючы значную зношанасьць абсталяваньня, асабліва цестадзяліцельнай машыны „Юста" і нармальнай загрузкі 8-гадзіннага рабочага дню.

Найвышэйшая загрузка хлебазаводу адбіваецца на санітарным становішчы хлебазаводу, асабліва ў мукасейным аддзяленьні, дзе часта бываюць выпадкі зьяўленьня бруду і г. д. Пашырэньне сеткі абслугоўваньня рабочых раёнаў хлебапячэньнем узрасло на 100 проц.: у 1928-29 годзе было 60 пунктаў продажу хлеба, тым часам як у 29-30 г. мы маем 120 пунктаў.

Узрост адчыненых крам па продажу хлеба ішоў за лік рабочых раёнаў, чаму абслугоўваньне рабочых раёнаў печаным хлебам палепшылася, але бываюць асобныя дні, калі наглядаюцца перабоі ў забесьпячэньні гораду хлебам з-за дрэннай пастаноўкі плянаваньня і адсутнасьці дакладнага падліку патрэбы гораду ў печаным хлебе.

Існуючая пры хлебазаводзе вытворчая лябараторыя не займаецца вывучэньнем сыравіны, якая паступае на вытворчасьць, за адсутнасьцю сталага працаўніка і складзкіх памяшканьняў для хаваньня мукі на больш працяглы тэрмін (хоць-бы 10-12 дзён). Уся сыравіна, якая паступае на вытворчасьць, аналізуецца органамі ДХІ, ДХІ таксама аналізуе выпечку печанага хлеба і займаецца праз установлены бракераж бракоўкай хлеба.

Пабудова Менскага хлебазаводу разьлічана на выпуск прадукцыі ўсіх гатункаў: хлеба, баранак, францускіх булак і часткова цукерных вырабаў, бо спэцыялізацыя выпуску аднагатунковых вырабаў не мэтазгодна (у іншых пякарнях гораду Менску праводзіцца выпечка аднагатунковых вырабаў, гэта прадугледжана пры пабудове новых хлебавыпякаючых прадпрыемстваў). Бракоўка хлеба праводзіцца выключна ўстаноўленым бракеражам, згодна інструкцыі, спэцыяльна выпрацаванай для гэтае мэты Наркамгандлю і ДХІ. Брак у сярэднім па заводу даходзіць да 100 цэнтнэраў у месяц, пры штодзённай выпечцы хлеба да 59-60 тон. Брак прадаецца па

зьніжанай цане ў спэцыяльнай краме. Праводзіцца шэраг мерапрыемстваў, якія спрыяюць зьнішчэньню браку; брак у сваёй большасьці бывае пры зьмене паступленьня на вытворчасьць сыравіны, якая амаль што кожны месяц зьмяняецца; зараз прымаюцца захады, каб пры кожнай новай партыі мукі, якая паступае, былі праведзены пробныя выпечкі, што дасьць магчымасьць папярэдзіць выпечкі ад браку.

Для вызначэньня проценту прыпёку праводзіліся пробныя выпечкі, у сярэднім процант прыпёку пры подавай выпечцы хлеба дасягае на аржаны хлеб 41,14. Устаноўлен дакладны падлік выхаду браку і процант прыпёку.

Хлебазавод мае адно падвальнае складзкое памяшканьне, якое не адпавядае прапускной здольнасьці пекарскай залі хлебазаводу і можа зьмясьціць запасу мукі толькі на 3 дні; акрамя таго, падвал сыры, што адбіваецца на якасьці мукі.

Экспэдыцыя не адпавядае прапускной здольнасьці—яна можа зьмясьціць вырабы толькі аднае зьмены, а пры захоўваньні запасу сутачных вырабаў хлеб складаецца адзін на адзін на аршын у вышыню, чаму хлеб па якасьці значна паніжаецца.

Па аналізах ДХІ на вытворчасьць паступае стандартная мука.

Галоўным недахопам зьяўляецца тое, што выхад гатовых вырабаў не адпавядае дзяржаўнаму стандарту па вільготнасьці з прычыны частковай пасьпешнасьці рабочых у часе працы і выпадкаў нядбайных адносін да працы. З боку адміністрацыі прымяняюцца правілы ўнутранога распарадку—вылічэньне з віноўнікаў выпуску нядобраякаснай прадукцыі, перамяшчэньне на ніжэйшыя пасады, правядзеньне паказальных судоў і г. д. У сучасны момант па пытаньні палепшаньня якасьці выпякаемага хлеба мабілізавана грамадзкасьць рабочых хлебазаводу, створаны штаб па правядзеньню месячніку за палепшаньне якасьці выпякаемага хлеба.

Да падрыхтоўкі кадраў кваліфікаваных рабочых пекароў для хлебазаводу было прыступлена несваячасова, у выніку чаго ўлетку 1930 году адчуваўся недахоп рабочай сілы, што адбілася на забесьпячэньні гораду хлебам. У кастрычніку месяцы 1930 г. пры Менскім хлебазаводзе адчынілася школа ФЗВ па хлебапячэньню з разьлікам на 60 вучняў у першым годзе; акрамя таго, была праведзена перакідка рабочых па заводу і датэрмінова пераведзены вучні на кваліфікаваную працу, што часткова зьнішчыла недахоп рабочых. Дырэкцыя заводу намячае правесьці 4-6-месячныя курсы па падрыхтоўцы 30-40 чалавек чорнарабочых для працы на саматужнай пякарні і хлебазаводзе, уведзена адлічэньне ў фонд падрыхтоўкі кваліфікаванай рабочай сілы.

Навокал пытаньня аб палепшаньні якасьці выпускаемай прадукцыі ня створана грамадзкая думка рабочых і каапактыву; аб якасьці хлеба ў большасьці пачынаюць гаварыць тады, калі якасьць значна паніжаецца, няма штодзённага кантролю з боку грамадзкіх арганізацый за працай хлебазаводу і якасьцю выпускаемай прадукцыі, булачныя камісіі не арганізаваны.

Транспарт да гэтага часу яшчэ не прыстасаваны да перавозкі хлебных вырабаў, ня гледзячы на тое, што па пытаньні транспарту ў нас шмат разоў пісалася ў друку і адпаведным арганізацыям прапаноўвалася палепшыць транспартыроўку хлеба, прыстасаваўшы для гэтае мэты адпаведныя фургоны або легкавы транспарт (аўтамашыны). У выніку ўсё-ж транспарт не прыстасаваны; хлеб у фургоны і да гэтага часу грузяць навалкай, перавозка яго ад заводу да месца прызначэньня значна пагаршае надворны выгляд і якасьць хлеба.

На ўсе хадайніцтвы дырэкцыі і грамадзкіх арганізацый перад адпаведнымі органамі, як Гарсавету, МЦРК, УМТА і РСІ, аб палепшаньні транспарту апошнімі ў гэтым напрамку нічога ня зроблена.

Праца вытворчых нарад да часу адозвы ЦК УсеКП(б) была пастаўлена

вельмі слаба, і падлік паступленьня прапаноў рабочых не праводзіўся. Пасьля прапрацоўкі адозвы было праведзена 6 вытворчых нарад, праца якіх пераведзена ў цэхі. За кароткі тэрмін ад рабочых паступіла 20 прапаноў, з якіх 16 прынята адміністрацыяй і 12 з іх ужо выкананы.

Адзінаначальле ў першым паўгодзьдзі 1929-30 году амаль што не адчувалася, і толькі за апошні час праведзена адпаведная праца, і адзінаначальле дае сябе адчуваць на прадпрыемстве. Старшыня і цэхавыя майстры зразумелі сутнасьць адзінаначальля, у зьвязку з чым падвысілася адказнасьць за працу кожнага працаўніка, і палепшылася працдысцыпліна.

**Левін**

## Узмацніць рыбалоўства

На 1 кастрычніка плян улову рыбы па вадаёмах БССР выканан усяго на 58 проц. у той час калі гадавы плян у 30.000 цэнтнэраў зьяўляўся зусім рэальным, канечне, ва ўмовах сапраўднай мабілізацыі грамадзкасьці вакол гэтае справы.

На вялікі жаль, першы квартал да 1 красавіка зьявіўся пэрыодам спрэчак паміж трыма сыстэмамі каапэрацыі, якія „кіравалі" рыбнай справай у БССР. Напрыклад, у Полацкай акрузе кіраўніком значнай часткі кулацкіх рыбацкіх арцеляй быў раней Сельсаюз, а пасьля Паляводсаюз, у Гомельскай акрузе, як быццам, займаўся гэтай справай Сампрамсаюз, а ў частцы раёнаў Мазырскай акругі кіраваў гэтай справай саюз паляўнічых.

Урад БССР у цэлым шэрагу пастаноў, пачынаючы з кастрычніка месяца 1929 году, рашуча ставіць пытаньне аб перадачы ўсяе рыбнае справы ў веданьне Наркамгандлю, нанова арганізаванаму аб'яднаньню „Белрыба" з тым, каб эксплёатацыя вадаёмаў праводзілася ў асноўным рыбацкімі арцелямі і рыбнымі брыгадамі пры калгасах, пад непасрэдным кіраўніцтвам сампрамсыстэмы, але некаторыя каапэрацыйныя сыстэмы, і асабліва Паляводсаюз, затрымлівалі перадачу гэтага кіраўніцтва ў адны рукі. Досыць прывесьці факты, калі Паляводсаюз прапанаваў сваім пунктам не дапускаць працаўнікоў „Белрыбы" і Сампрамсаюзу да працы, і толькі фактычна з 1 красавіка рыбная справа паступова перайшла да „Белрыбы" і Сампрамсаюзу.

Калі возьмем выкананьне пляну за першы квартал, дзе, між іншым, па Полацкай, Аршанскай і Мазырскай акругах павінен быў быць найлепшы ўлоў, то, на вялікі жаль, па вышэйпаказаных прычынах улоў раўняецца ўсяго 11,9 проц. За другі квартал мы маем ужо 22,3 проц., а за трэці— 25 проц.

Трэба сказаць, што за ўвесь час працы зьвярталі зусім мала ўвагі на стварэньне сапраўднага, адданага сваёй справе рыбака. У сучасны момант амаль што ўсё рыбацтва БССР цесна зьвязана з сельскай гаспадаркай і, на жаль, рыбнай справай займаецца пастолькі, паколькі. Адгэтуль мы маем такое становішча, што выхад на працу рыбака зусім не рэгулярны (у сярэднім два-тры дні ў тыдзень)

Адсутнасьць культасьветнае і асабліва антырэлігінае працы сярод рыбакоў прыводзяць да таго, што ў рэлігійныя сьвяты ўлоў спыняецца. Зусім не праводзяцца сярод рыбацтва мэтад сацспаборніцтва і ўдарніцтва, наадварот, былі выпадкі па менскай акрузе, калі некаторыя арцелі эдмаўляліся ад заключэньня ўмоў па поўным выкананьні міжпляновых заданьняў, якія ім прапаноўваліся. Гэта зусім зразумела, таму што апарат сампрамсыстэмы на мясцох ніякай амаль што

працы сярод гэтых арцеляй не вядзе, акрамя таго, што часткова забясьпечвае іх неабходнымі прыладамі для ўлову і спэцвопраткай. У астатнім яны прадастаўлены самім сабе. Вельмі разьвіта сярод арцеляй п'янства, якое праходзіць пад непасрэдным „кіраўніцтвам" старшынь гэтых арцеляй. Заўважаюцца выпадкі, калі грошы, выдаткаваныя на гарэлку, уносяцца ў рахунак выдаткаў па арцелі.

Таму зусім сваячасовым трэба лічыць пастанову Экана БССР аб стварэньні спэцыяльнага Рыбаксаюзу, які-б сапраўды заняўся стварэньнем здаровага рыбацтва ў БССР, але тут трэба адразу-ж падкрэсьліць, што пакуль РВК і мясцовыя органы раёнаў ня будуць удзяляць дастатковую ўвагу гэтай справе, рэзкага пералому ня будзе.

Дрэннае выкананьне пляну ўлову сыгналізуе аб наяўнасьці прарываў у аднэй з асноўных галін рабочага забесьпячэньня. Асабліва злачынна адстаюць раёны былых Віцебскай, Гомельскай, Магілеўскай і Менскай акруг. Лічбы выкананьня пляну гэтымі акругамі самі аб сабе сьведчаць: Менская—25 проц., Магілеўская—34 проц., Гомельская—47 проц. і Віцебская—41 проц.

40 проц. рыбакоў зьяўляюцца калгасьнікамі. З прычыны таго, што праўленьні калгасаў маюць своеасаблівы погляд на працу рыбакоў-калгасьнікаў, атрымоўваецца вельмі няпрыемнае зьявішча. Усё тое, што рыбак атрымоўвае да улову, ён здае ў калгас; калгас таксама атрымоўвае нейкую частку ўлову, і ў выніку няма ніякага стымулу з боку рыбакоў-калгасьнікаў да павялічэньня ўлову і да інтэнсыфікацыі яго.

Асабліва трэба спыніцца на застаўленьні рыбы на мясцох. Калі ўлетку, у гарачую пагоду, рыба 3-га і 4-га гатунку не магла трапіць добраякаснай у рабочыя цэнтры, можна было гаварыць аб некаторым застаўленьні рыбы на мясцох, прымаючы пад ўвагу, што ўлетку ў рабочых цэнтрах лягчэй было з малочнымі прадуктамі і з гароднінай. У сучасны момант зьяўляецца злачынствам, калі пад усякага роду націскамі з боку мясцовых органаў застаўляецца да 40-50 проц. рыбы на месцы; на гэта трэба зьвярнуць увагу сьледчым органам.

Досыць адзначыць, што за жнівень месяц па былой Мазырскай акрузе да 60 проц. рыбы заставалася на мясцох, па Полацкай—да 50 проц.

Зацьверджаны Наркамгандлю БССР плян улову рыбы на IV квартал у 12.500 цэнтн. прадугледжвае 85 проц. гэтай колькасьці для забесьпячэньня рабочых цэнтраў: Менску—3500 цэнтнэраў, Віцебску—2.900, Гомелю—2.500 і Барысаву—700, выходзячы з 8 кілёграм сьвежай рыбы на кожнага рабочага. Акрамя гэтых гарадоў, у пляновае забесьпячэньне ўваходзяць яшчэ 15 пунктаў, дзе ў адпаведнасьці з колькасьцю рабочых норма, прыкладна, раўняецца $3^1/_2$—4 кілёграмам на квартал.

Трэба папярэдзіць спробы мясцовых спажтаварыстваў на незаконнае атрыманьне рабы з арцеляй, а вінаватых прыцягваць да адказнасьці. Мясцовыя спажтаварыствы могуць атрымаць рыбу толькі пры перавышэньні пляну ўлову па раёну альбо яшчэ пры адным спосабе, і гэты бадай самы прыймальны для спажтаварыстваў—гэта непасрэдная эксплёатацыя дробных вадаёмаў да 5 га, якія не ўваходзяць у пляновы ўлоў „Белрыбы". Бязумоўна, у гэтай частцы патрэбна дагаворанасьць з гаспадаркамі „Белрыбы" на мясцох, і пры праяўленьні адпаведнай ініцыятывы гэтага магчыма будзе дабіцца.

Пайнік № 18520

# Зьнішчыць недахопы

Сталоўка МЦРК № 7 знаходзіцца ва унівэрсытэцкім гарадку і абслугоўвае рабочых і служачых, што заняты на пабудове гэтага-ж гарадку, а таксама і частку студэнтаў Белдзяржунівэрсытэту.

У парадку агульнае заўвагі неабходна сказаць, што цяпер амаль кожны прывык ужо лічыць сталоўкі сродкам арганізацыі новага быту. Новая адміністрацыя сталоўкі таксама, мусіць, добра разумее гэта, бо на аднэй з сьценак яе (сталоўкі), наогул вельмі брудных, расклеены лёзунг: „Далоў сямейны прымус і хатнюю расійскую печ". Літаральна так і напісана. Апошняе нічога іншага не азначае, апрача таго, што сталоўка можа замяніць сабою і „сямейны прымус" і „расійскую печ". І гэта сапраўды так, так думаем і мы. Але, апрача гэтага, мы думаем (і ўпэўнены ў гэтым) яшчэ і пра тое, што праца сталоўкі, каб сапраўды замяніла сабою „прымус і печ", павінна быць добра арганізавана, бо практычная праца сталоўкі цяпер наладжана вельмі дрэнна. На кухні ўсюды бруд. Адсутнічаюць нават самыя элемэнтарныя патрабаваньні гігіены. Кухары і іншая чэлядзь кухні ня маюць нават халатаў і працуюць у брудных рагожках. Працэс выдачы абедаў, з пункту погляду захаваньня гігіенічных умоў, ня вытрымлівае аніякай крытыкі: хлеб, што выдаецца разам з абедамі праз вакно, вельмі часта трапляе ў талерку са стравою, у горшым выпадку—пад талерку—на тое месца, дзе шмат ставілася талерак, і дзе казаць пра чыстату вельмі цяжка.

Абсталяваньне сталоўкі дрэннае: няма нават відэльцаў. Чарга—штодзённая зьява і павялічваецца толькі таму, што справа выдачы абедаў праз вакно не наладжана, пры чым з існуючых трох вокнаў скарыстоўваецца ў большасьці адно, праз якое выдае абеды 1 чалавек; калі-нікалі выдаюцца абеды праз два вакны. Працаўнікі сталоўкі матывуюць гэта адсутнасьцю штату, зусім ня думаючы, мусіць, аб тым, што ў выніку такога становішча ствараюцца вялікія значныя чаргі, а іх можна было-б зьнішчыць, запрасіўшы некалькі платных работнікаў. Абедаючыя вельмі часта закранаюць пытаньне аб неабходнасьці зьнішчэньня недахопаў і характарызуюць сваё нездавальненьне такою пастаноўкаю справы: „Мы таксама за зьнішчэньне гэтых недахопаў."

# Мабілізуем сродкі насельніцтва

П. Бурачэўскі

## Заданьні па мабілізацыі сродкаў насельніцтва злачынна зрываюцца

Ня гледзячы на шэраг дырэктыў і катэгарычных канкрэтных паказаньняў аб поўным і сваячасовым выкананьні спажкаапэрацыяй кантрольных лічбаў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва за 1929-1930 г., апошнія да 1-X 1930 г. засталіся недавыкананымі. Гадавое заданьне па паянакапленьню выканана ў разьмеры толькі 71 проц. па цэрабкоопах і 88 проц. па райспажтаварыствах. Заданьне па мэтавых узносах на капітальнае будаўніцтва зусім сарвана (па ЦРК выканана на 3,6 проц., па райспажтаварыствах—на 36,4 проц.). Таксама сарвана і выкананьне заданьня па ЦРК аб зборы ў верасьні месяцы авансаў пад тавары, якіх да 1-га кастрычніка паступіла толькі на 32 проц.

У сувязі з недавыкананьнем гадавых кантрольных лічбаў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва, чым быў створан прарыў у выкананьні фінпляну спажкаапэрацыі, з 1-га кастрычніка г. г. трэба было стварыць рашучы пералом у гэтым напрамку і дадзенае заданьне на ўдарны квартал кастрычнік—сьнежань цалкам выканаць, аднак папярэднія вынікі за першыя дзьве дэкады паказваюць, што заданьні па мабілізацыі сродкаў насельніцтва працягваюць злачынна зрывацца. Заданьне па збору паёў на кастрычнік месяц з 1 па 20/X г.г. выканана па ЦРК у разьмеры толькі 52,3 проц., па райспажтаварыствах—на 17,4 процанта, замест патрэбных 66-70 проц.

Адзначаныя вынікі характарызуюць, што апаратам сыстэмы спажкаапэрацыі ўсё яшчэ недаацэньваецца сур'ёзнасьць і важнасьць справы па мабілізацыі сродкаў насельніцтва, з чым зьвязана выкананьне важнейшых задач і мерапрыемстваў спажкаапэрацыі.

Такое становішча ня можа працягвацца ў далейшым. Белкаапсаюзу трэба безадкладна правесьці самыя рашучыя меры ў напрамку зьнішчэньня падобных недапушчальных і злачынных адносін да выкананьня важнейшых заданьняў і забясьпечыць іх выкананьне. Асобныя арганізацыі і работнікі, якія зрываюць выкананьне заданьняў і ігнаруюць дырэктывы па мабілізацыі сродкаў насельніцтва, не павінны заставацца непакаранымі.

Трэба адзначыць, што, побач з агульнымі дрэннымі вынікамі выкананьня заданьняў і поўным зрывам па асобных арганізацыях, частка арганізацый з выкананьнем заданьняў спраўляецца ня дрэнна, магчымасьці для пасьпяховага выкананьня заданьняў сваячасова і цалкам маюць усе арганізацыі. Трэба толькі правесьці працу па мабілізацыі сродкаў насельніцтва ў адпаведнасьці з дадзенымі дырэктывамі і паказаньнямі, выкананьне якіх забясьпечыць і выкананьне заданьняў.

Неабходна, у дадатак да вызначаных і правадзімых мерапрыемстваў, у мэтах паскоранага выкананьня і магчымага перавыкананьня дадзеных кантрольных лічбаў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва на ўдарны квартал, тэрмінова правесьці налічэньне і прыступіць да збору новага дыфпаю, мабілізаваўшы для гэтага ўвесь каапэрацыйны апарат і каапактыў, праводзіць гэту працу сумесна з партыйнымі, савецкімі і прафарганізацыямі, увязваючы з правядзеньнем і выкананьнем усіх важнейшых гаспадарча-палітычных заданьняў.

С. Лодысеў

# Ганебныя тэмпы

Пытаньне мабілізацыі сродкаў насельніцтва, асабліва ў сучасны момант, набывае першачарговае значэньне, а таму на гэтым вучастку работы павінна быць сканцэнтравана ўся ўвага як савецкіх, прафэсійных, так і каапэрацыйных арганізацый.

Гэта так павінна быць, а цяпер мы застановімся на гор. Віцебску і паглядзім, як жа там абстаіць справа. Калі мы пачынаем больш глыбей ўглядвацца, то аказваецца, што як дзяржаўныя, так і каапэрацыйныя гандлюючыя арганізацыі ня выканалі верасьнёўскага пляну па таваразвароту. Плянам прадугледжвалася паступленьне (за 1-ю палову верасьня м-ца) 1.788.000 руб., а паступіла толькі 1.143.000 руб. Такім чынам, плян застаўся ня выкананым на 643.000 р., ці на 36 проц., і гэта ў той час, калі па цэламу шэрагу арганізацый маюцца запасы тавараў, якія магчыма было выкінуць на рынак (ЦРК, „Прыхільнік Дзяцей“ і інш.).

Ганебнымі тэмпамі ідзе справа ў галіне спагнаньня паёў па лініі ЦРК і асабліва па Жылсаюзу. Па лініі ЦРК павінна было паступіць на 1 кастрычніка 1930 г. 483.900 р., а паступіла 299.903 руб., і засталося ў запазычанасьці 188.397 руб., што складае 39 проц. пляну.

Тут нават цікава будзе спыніцца і на пакварτальным руху паступленьня паёў, які дае наступны малюнак:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Па першаму кварталу паступіла | 44821 руб. | ці | 9,27% |
| „ другому „ | 56925 „ | „ | 11.74 „ |
| „ трэцяму „ „ | 78541 „ | „ | 16,25 „ |
| „ чацьвёртаму „ „ | 114603 „ | „ | 23,70 „ |

Жылсаюз. Кватэранаймальнікаў лічыцца 7.303, а членаў пайнікаў па ЖАКТ‘ах арэнднай капэрацыі—4.982.

Мы ўсе добра ведаем, што паявыя ўзносы па жыльлёва-арэнднай каапэрацыі зьяўляюцца мізэрнымі (10 руб.), і, ня гледзячы на гэта, паступленьне паёў ідзе вельмі дрэнна, бо павінна было паступіць 49.820 руб., а паступіла на сёньняшні дзень толькі 28.593 р.

Па будаўніча-жыльлёвай каапэрацыі маецца 641 пайнік, паявы ўзнос устаноўлен ў 50 р. Павінна было паступіць паёў 32.000 р., атрымана-ж усяго толькі 22.715 р., ці 57,4 проц.

Калі лічыць, што членаў пайнікаў павінна быць па ліку кватэранаймальнікаў 7.303, і сума паявога капіталу павінна быць сабрана па ліку пайнікаў, то тады мы маем недабор паёў на 50 проц.

Ёсьць надзвычайна вялікая запазычанасьць і па паступленьню кватэрнай платы, сума якой дасягнула ўжо да 65.000 руб.

Па гораду Віцебску зусім нездавальняюча працуюць і ашчадныя касы. Ня лепш абстаіць справа і з працаю аддзяленьня банку ў галіне ліквідацыі нядоімак па вясковых крэдытных таварыствах і мабілізацыі сродкаў сялянскага насельніцтва.

Яшчэ і на сёньняшні дзень не ўрэгулявана пытаньне адносна фінансавых узаемаадносін аддзяленьня банку з 6-ым раёнам МББ чыгункі, грашовая выручка якога асядае ў розных гарадох і карэспандэнцкіх пунктах, і толькі нязначная частка паступае ў касу Віцебскага аддзяленьня банку.

Нельга лічыць здавальняючаю работу і аддзяленьня банку ў сэнсе мабілізацыі сродкаў насельніцтва, пастаноўкі вучоту, плянаваньня і рэгуляваньня грашовых зваротаў.

Вось усе гэтыя абставіны і прывялі да таго, што стварылася запазычанасьць па заработнай плаце рабочых і служачых.

Неабходна будзе ўсю работу па мабілізацыі сродкаў насельніцтва паставіць на баявыя рэйкі, інакш прарывы па гор. Віцебску ў кастрычніку і лістападзе абяцаюць быць яшчэ большымі і горшымі.

# На загатоўчым фронце

З. І. Фрыдлянскі

## Ліквідаваць прарывы, своячасова і поўнасьцю выканаць плян хлебазагатовак па спажывецкай каапэрацыі

У хлебазагатоўчую кампанію бягучага году спажывецкая каапэрацыя БССР уступіла з больш павялічаным плянам загатовак, чымся ў мінулым годзе. Плян хлебазагатовак спажывецкай каапэрацыі складае 85 проц. агульнага пляну хлебазагатовак па БССР і на 163 проц. больш пляну хлебазагатовак мінулага году.

Адведзенае спажывецкай каапэрацыі месца у агульных загатоўках (85 проц.) вылучае яе, як асноўную і галоўную хлебазагатоўчую арганізацыю БССР. Ад якасьці работы спажывецкай каапэрацыі ў значнай ступені залежыць пасьпяховае правядзеньне ўсяе хлебазагатоўчай кампаніі.

З пачатку хлебазагатоўчай кампаніі прайшло ўжо звыш трох месяцаў, і лічбовыя даныя і матар'ялы з месц, якія мы маем у сваім распараджэньні, даюць магчымасьць зрабіць папярэдні аналіз ходу і разгортваньня кампаніі.

Агульныя хлебазагатоўкі па БССР на 1-ае кастрычніка, паводле папярэдніх даных, прадстаўляюцца у наступным выглядзе:

| | % выкананьня гадавога пляну |
|---|---|
| Спаж. каапэрацыя | 22,4 |
| С.-г. „ | 31,1 |
| Саюзхлеб | 10,6 |
| Усяго | 23,4 |

Як відаць з вышэйпаказаных лічбаў, спажывецкая каапэрацыя адстае ў выкананьні свайго хлебазагатоўчага пляну (22,4 проц., пры сярэднім выкананьні па БССР на 23,4 проц.). Адведзеная ёй удзельная вага не захована ў агульных загатоўках (80,7%, пры вызначанай па пляну 85 проц.).

Тэмп хлебазагатовак па спажывецкай каапэрацыі нельга прызнаць здавальняючым. Побач са здавальняючым разгортваньнем кампаніі па некаторых райспажтаварыствах шэраг раёнаў злачынна адстае ў выкананьні сваіх плянаў. Для сьцьверджаньня вышэйпаказанага падамо выкананьне гадавога пляну хлебазагатовак па некаторых райспажтаварыствах, паводле вестак на 1-ае кастрычніка (у процантах):

| | |
|---|---|
| Асіпавіцкае | 16,8 |
| Барысаўскае | 15,1 |
| Бешанковіцкае | 8,2 |
| Гарадокскае | 8,5 |
| Глускае | 9,4 |
| Журавіцкае | 8,4 |
| Клімавіцкае | 6,9 |
| Любаньскае | 9,5 |
| Парыцкае | 10,3 |
| Старобінскае | 12,5 |
| Чырвона-Слабодзкае | 7,9 |
| Шклоўскае | 8,3 |

Выкананьне у сярэднім агульнага пляну хлебазагатовак па спажывецкай каапэрацыі ў 22,4 проц. лішні раз сьведчыць, наколькі значна адстаюць вышэйпералічаныя райспажтаварыствы.

Першыя 10 дзён бягучага кастрычніка, на жаль, не даюць належнага пералому ў ходзе загатовак па спажкаапэрацыі.

На 10-ае кастрычніка месячны плян па ўсёй сыстэме выканан у сярэдзім на 27,8 проц., пры чым другая пяцідзёнка, замест павялічэньня загатовак, дае зьніжэньне (11,9 проц. пляну, пры 15,9 проц. у першай пяцідзёнцы).

Такое становішча, калі тэмп загатовак зьніжаецца, зусім недапушчальна і тлумачыцца ў асноўным апартуністычнымі настроямі шэрагу раёнаў да важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі, што сьцьвярджаюць і паступаючыя з месц матар'ялы. У шэрагу раёнаў наглядаецца скрыўленьне лініі партыі. Вось, напрыклад, вынятка з пастановы бюро Бярэзінскага Райкому КП(б)Б: „Прызнаць палітычнай памылкай такую практыку некаторых раённых арганізацый і сельсаветаў у рабоце па хлебазагатоўках, у выніку чаго плян хлебазагатовак фактычна не даведзены да кулацка-заможнага двара. Рашуча асудзіць спробу разьмеркаваньня пляну і на беднату (Бялічанскі сельсавет). Сельсаветы наогул ня кіруюць хлебазагатоўкамі, а плятуцца у хвасьце. Па ўсіх сельсаветах адсутнічае выразнасьць у працы. Калгасы, як здатчыкі, ня ідуць наперадзе індывідуальных гаспадарак, а, наадварот, плятуцца ў хвасьце. Чырвоныя абозы сталі формай, а ня мэтадам хлебазагатовак і праходзяць амаль усе бяз удзелу партыйных і другіх грамадзкіх арганізацый. Камісіі садзейнічаньня засьмечаны сацыяльна-чужым элемэнтам..."

А вось што паведамляе мабілізаваны па лініі ЦК УсеКП (б) таварыш, які прымацаваны да Амсьціслаўскага раёну: „Па раёну слаба вядзецца барацьба з кулацкай ідэалёгіяй, з кулацкімі выступленьнямі і іх дзеяньнямі наогул. Нават некаторыя члены сельсаветаў выступаюць на сходах з кулацкімі настроямі (член с/с в. Ледагошчы), некаторыя члены с/с нават не зьяўляюцца на пленумы. Шмат камісій садзейнічаньня не працуе".

А ў Шклоўскім раёне да 5-га кастрычніка у большасьці с/с пляны яшчэ ня былі даведзены да кулацка-заможнага двара (паведамленьне інстр. БКС). Можна прывесьці яшчэ шмат аналёгічных злачынных адносін да хлебазагатовак.

Пасьля прыведзеных вышэй (толькі па 3 раёнах) агідных фактаў стане зусім яскравай прычына слабога ходу кампаніі.

Месцам неабходна ўлічыць недахопы кампаніі і безадкладна і рашуча зьнішчыць іх. Хлебазагатоўкі павінны быць пераведзены на сапраўдныя баявыя тэмпы і ператвораны ў сапраўдную масавую кампанію. Неабходна шырока разгарнуць сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж раёнамі, сельсаветамі, вёскамі, калгасамі, спажывецкімі таварыствамі. Застаўшыся кароткі тэрмін патрабуе самых баявых тэмпаў і выразнай працы.

Бягучы месяц зьяўляецца адным з рашучых. Плян хлебазагатовак можа і павінен быць выкананы сваячасова і цалкам.

---

З. Ф-скі

## У бой за бульбу

Па пляну, зацьверджанаму Экана БССР, спажывецкая каапэрацыя ў час бягучай кампаніі павінна загатовіць бульбы амаль у пяць разоў больш, чымся ў мінулай кампаніі, што складае 40 працантаў усяе колькасьці бульбы, якая падлягае загатоўцы сёлета па БССР.

Гэтае заданьне ўскладае на спажывецкую каапэрацыю вялізарнейшыя задачы і адказнасьць, між тым лічбы і матар'ялы сьведчаць аб шэрагу прарываў у рабоце спажывецкай сыстэмы па бульбазагатоўках.

Верасьнёўскі плян бульбазагатовак выканан па спажывецкай каапэрацыі ўсяго на 58,3 працанты; такім чынам, яго можна лічыць сарваным.

Шэраг раёнаў зусім не разгарнуў работы па загатоўцы бульбы. Падамо

некалькі лічбаў выкананьня верасьнёўскага пляну, якія характарызуюць адносіны да бульбазагатовак:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| па Аршанскаму | райспажтаварыству | плян | выканан | на 8,2 | проц. |
| „ Бешанковіцкаму | „ | „ | „ | „ 9,1 | „ |
| „ Віцебскаму | „ | „ | „ | „ 14,7 | „ |
| „ Жыткавіцкаму | „ | „ | „ | „ 4,8 | „ |
| „ Калінкавіцкаму | „ | „ | „ | „ 5,7 | „ |
| „ Любаньскаму | „ | „ | „ | „ 10,3 | „ |
| „ Сураскаму | „ | „ | „ | „ 8,5 | „ |
| „ Чэрвэнскаму | „ | „ | „ | „ 5,1 | „ |

Можна было-б прывесьці яшчэ шэраг раёнаў, якія плятуцца ў хвасьце і якія зьяўляюцца віноўнікамі зрыву верасьнёўскага пляну.

Першая пяцідзёнка кастрычніка не дае належнага пераломy ў ходзе загатовак. За пяць дзён загатоўлена ўсяго 8,7 працантаў месячнага заданьня, пры чым шэраг адстаючых раёнаў працягвае злачынна адставаць, а менавіта: Бешанковіцкае райспажтаварыства за першую пяцідзёнку кастрычніка выканала месячнае заданьне ўсяго на 5,4 працанты, Віцебскае— на 3,1 проц., Жыткавіцкае і Калінкавіцкае зусім бязьдзейнічалі ў першай пяцідзёнцы.

Асноўнай перашкодай пасьпяховаму разгортваньню кампаніі зьяўляецца недастатковая мабілізацыя мас, адсутнасьць неабходнага баявога настрою. У шэрагу раёнаў наглядаюцца выпадкі яўна-апартуністычных настрояў, якія выражаюцца канкрэтна ў недавядзеньні да гэтага часу пляну да кулацка-заможнага двара, недастатковым націску на кулака. Вось, напрыклад, паведамленьні брыгадзіра з Амсьціслаўскага раёну:

„Загатоўка бульбы ідзе слаба, плян праведзены да вёскі толькі на 25-30%. Дзяржаве бульбы не даюць, спасылаючыся на копку, а на рынку прадаюць па 2 рублі“.

Выявіўшыяся недахопы павінны быць безадкладна і рашуча зьнішчаны. Час ня церпіць, чакаецца раньнее пахаладаньне, што, у сувязі з гэтакімі нядбайнымі адносінамі, можа зусім сарваць кампанію.

Бульбазагатоўкі могуць і павінны быць разгорнуты. Бліжэйшыя дні павінны быць рашучымі ў правядзеньні кампаніі.

# Па цэрабкоопах

У. В—А

## Чаму распушчана праўленьне Віцебскага ЦРК?

Гэтымі днямі ЦКК-РСІ скончыла абсьледваньне рабочага забесьпячэньня ў Віцебску. Абсьледваньне з поўнай відавочнасьцю выявіла, што становішча рабочага забесьпячэньня ў Віцебску значна абвастрылася з прычыны сабатажу ЦРК і бюракратычнага ігнараваньня дырэктыў партыі з боку загатоўчых арганізацый, гарсавету і прафсаюзаў. Вось факты:

ЦРК атрымаў дырэктыву арганізаваць прыгарадную гаспадарку ў 200 га. Старшыня праўленьня ЦРК т. Галузо, пры маўчаньні віцебскіх арганізацый, аднёсься наплявацельскі да гэтай дырэктывы і абмежаваўся засевам ...4 га.

Пасьля ўмяшаньня ЦК КП(б)Б, ЦРК у красавіку прыняў пад сваё кіраваньне шэраг новых гаспадарак плошчаю ў 516 га. З гэтых 516 га ён засеяў толькі 434 га. Пад якія-ж культуры скарыстаны гэтыя 434 га? Вось пад якія: жыта засеяна 47 га, авсу—88 га, бульбы—86 га, канюшыны—130 га, а пад агароды пайшло 28 га.

Але ўраджайнасьць гэтых 28 га настолькі нізкая, што ўвесь валавы збор гародніны складае 2 проц. усяе патрэбнасьці Віцебску. Гэктар морквы дае 50 цэнтнэраў замест нармальных 250, гэктар гуркоў—50.000 шт. замест нармальных 150.000 і г. д.

Малочная жывёла на фэрмах знаходзіцца ў становішчы бясспрытульнасьці. Хлявы не пабудаваны, і жывёла гуляе пад адкрытым небам. З прычыны антысанітарнага ўтрыманьня жывёлы, на воспу вымені хварэюць 77 кароў. Фэрма агароджана чамусьці калючым дротам. З-за гэтага захварэлі раздражэньнем сасков 18 каров. У выніку такога догляду за жывёлай ЦРК губіць мінімум 50 проц. малочнай прадукцыі.

Апартуністыя з Віцебскага ЦРК Галузо, Гольдбэрг і інш., пад ідэёвым кіраўніцтвам былога старшыні Белрабсэкцыі Кумкеса, глядзелі на грамадзкае харчаваньне, як на „нерэнтабельную“ справу, таму ў Віцебску, у пралетарскім акруговым цэнтры, да апошніх месяцаў сталовыя адпускалі абедаў менш, чым у Рэчыцы і Барысаве, не вялікіх раённых гарадох, дзе насельніцтва ў 6-7 разоў менш, чым у Віцебску.

З 35.000 рабочых да лютага толькі 1500 рабочых атрымоўвалі абеды на прадпрыемствах. Вячэрнія і ночныя зьмены зусім не абслугоўваліся. Арыентуючыся выключна на дэфіцытныя прадукты—мяса, рыбу, тлушчы і г. д., ЦРК адпускаў толькі абеды. На сьнеданьне ў сталовых, акрамя чаю, ніколі нічога ня было. ЦРК не здагадаўся замяніць нехапаючыя прадукты гароднінай ці мучнымі прадуктамі.

Якасьць абслугоўваньня была агідная, афіцыянткі грубыя. На пытаньне, ці ёсьць на абед мяса, адказваюць: „На мяса забудзьцеся да канца пяцігодкі“.

Клясава і тэхнічна-выразна разьмеркаваць маючыяся прадукты—значыць зьмякчыць напружанасьць рабочага забесьпячэньня. Але як жа ЦРК можа правільна разьмеркаваць прадукты, калі ў яго рабоце, замест плянавасьці, поўны хаос.

Ніхто ў ЦРК ня ведае, што заўтра атрымаюць сталовыя, магазыны, буфэты. Хто з буфэтчыкаў паспрытней, той больш і атрымае.

Суровыя дырэктывы партыі аб пераважным забесьпячэньні рабочых ЦРК сабатаваў. Клясавая дыфэрэнцыяцыя ўтваралася толькі ў адносінах

прадуктаў, нармаваных цэнтрам: хлеба і мяса, астатнія прадукты даваліся ў аднолькавым разьмеры і служачым і рабочым. Гэткае разьмеркаваньне прадуктаў значна біла па рэальнай зарплаце рабочых, асабліва, калі ўлічыць, што за кошт рабочых „перазабясьпечваліся" цэрабкоопам штодзённа 10—12.000 едакоў, паколькі лік едакоў, атрымаўшых наборныя кніжкі ў ЦРК, перавышае агульную колькасьць насельніцтва, ўключаючы і непрацоўны элемэнт.

Наогул праблема падвышэньня рэальнай зарплаты рабочага не існавала для ЦРК. Чым жа, калі не наплявацельскімі адносінамі да дырэктыў партыі, тлумачыць нікчэмную ўдзельную вагу ЦРК у задавальненьні патрэб рабочага ў бульбе і гародніне. Толькі 10—15 проц. гародніны даваў ЦРК, астатнія 85 проц. рабочы купляў на прыватным рынку. За май—ліпень ЦРК адпусьціў на едака па 3 клг. гародніны, у тым ліку і бульбы.

Злачынна слабое становішча загатовак у Віцебскай акрузе таксама моцна адбілася на становішчы рабочага забесьпячэньня.

Плян па маслазагатоўках выкананы толькі на 22 проц., па загатоўцы малака—на 43 проц., мяса—на 20 проц. і г. д. Зусім правaліла загатоўкі сыстэма малжывкаапэрацыі, якая ня мае амаль ніякай вясковай сеткі. Раёны, у якіх ёсьць 20 сельсаветаў і 15.000 гаспадарак, маюць толькі па 2 зьліўныя малочныя пункты, гэта значыць, што селянін павінен дастаўляць малако за некалькі дзесяткаў кілёмэтраў.

Па той жа прычыне некаторыя раймалжывсаюзы ў працягу году загатовілі па 75 яек, г. зн., 0,029 проц.

На гэтыя зьявішчы ніхто не рэагаваў. У віцебскіх арганізацыях панавала тэорыя, што прычынамі кепскай работы ЦРК зьяўляюцца не апартунізм і галавацяпства яго кіраўнікоў, а слабы завоз прадуктаў з цэнтру. Прадстаўнікі ЦРК на ўсіх сходах дэманстравалі лічбы нявыкананых плянаў завозу, але ніхто ніколі ніводным словам не адзначыў злачынную бязьдзейнасьць і безыніцыятыўнасьць мясцовых арганізацый ў скарыстаньні і вышуканьні мясцовых рэсурсаў.

У Віцебску нічога ня зроблена ў галіне птушкаводзтва і трусаводзтва. У Віцебску няма ніводнае сталоўкі, арганізаванай жылкаапэрацыяй. Кухні сталовых нагружаны ў працягу 1—1½ зьмен.

Характэрнай ілюстрацыяй безыніцыятыўнасьці ЦРК зьяўляецца наступны факт: на запытаньне з Менску, колькі тары для гародніны можа ЦРК мабілізаваць у самым Віцебску, праўленьне ЦРК адказала: „нічога". Каротка і ясна. І настолькі-ж безадказна і злачынна. Не адстае ад ЦРК і Віцебскі Садсаюз, які адмовіў райкалгассаюзу ў пазыцы 287 р. (дакладна: 287 р.) для сканчэньня рамонту плодасушылкі з прычыны „адсутнасьці асыгнаваньняў".

Дзе-ж былі мясцовыя арганізацыі, дзе-ж былі прафсаюзы? Рэзалюцыі аб рабочым забесьпячэньні прыймалі ўсе, у тым ліку і акруговае прафбюро (АПБ), але ніхто нічога не рабіў для правядзеньня рэзалюцый ў жыцьцё. АПБ, у прыватнасьці, ніякай дапамогі ЦРК не аказала. На прарыў у галіне прыгараднай гаспадаркі (4 га. замест 200) АПБ нічым не рэагавала, ня гледзячы на тое, што яно ведала аб яўным сабатажы ЦРК дырэктыў партыі ў гэтай галіне. Віцебскія прафсаюзы нясуць адказнасьць за гэты прарыў таксама і таму, што яны ня выканалі дырэктывы ЦСПСБ аб фінансаваньні прыгарадных гаспадарак. Замест 18 тыс. руб., прафсаюзы далі на гэту справу толькі 5 тыс. руб.

Віцебскія прафсаюзы ня толькі не рэагавалі на парушэньне прынцыпаў клясавага разьмеркаваньня, але сваёй галавацяпскай пастановай аб дыфэрэнцыяцыі пайнікаў на 4 катэгорыі, замест звычайных 3, зусім зьвялі з клясавых рэек справу разьмеркаваньня. Гэта вынаходзтва Віцебскага АПБ стварыла такі малюнак, што кандуктары таварных вагонаў забясьпечваліся, як рабочыя, а кандуктары пасажырскіх, як служачыя.

Прафсаюзы нічога не зрабілі для клясавага выхаваньня служачых каапэрацыі, для арганізацыі рабочага кантролю над ёю. Прычынамі гэтай безадказнасьці зьяўляюцца трэд-юніоністкія настроі сярод паасобных кіраўнікоў Віцебскага прафсавету.

* *
*

Бюро ЦК КП(б)Б і прэзыдыум ЦКК Бел. жорстка рэагавалі на ўсе гэтыя агіднасьці. Праўленьне Віцебскага ЦРК распушчана. Асноўныя віноўнікі арыштаваны. Старшыні гарсавету абвешчана вымова. Няўважлівыя адносіны акруговых партыйных і прафсаюзных арганізацый да злачынстваў ў справе рабочага забесьпячэньня прэзыдыум ЦКК кваліфікаваў як яўнае прымірэнцтва да фактаў сабатажу партыйных дырэктыў.

Віцебскія ўрокі павінны быць улічаны ўсімі цэрабкоопамі.

Сабатажу партыйных дырэктыў, безадказнасьці і хаотычнасьці павінен быць дадзены бязьлітасны адпор.

---

Ваўкавіцкі

# Аб ходзе работы па праверцы наборных кніжак

Праверка наборных кніжак мае вельмі важнае і палітычнае значэньне, асабліва ў сучасны момант, пры пляновым разьмеркаваньні тавараў. Вынікі абсьледаваньня асобных ЦРК сьведчаць аб шэрагу выпадкаў злоўжываньня наборнымі кніжкамі з боку асобных груп пайнікаў. Наглядаюцца такія выпадкі, калі наборныя кніжкі выпісаны на мёртвыя душы, калі асобныя пайнікі атрымліваюць дэфіцытныя тавары ў 3 мясцох, калі дзіцячыя кніжкі ёсьць ў такіх, якія зусім ня маюць дзяцей, альбо гэтым „дзецям“ ужо каля 18-20 год.

Ня гледзячы на гэта, матар'ялы па гэтым пытаньні паказваюць, што значная частка ЦРК не ўсьвядоміла важнасьці і значэньня работы па праверцы наборных кніжак, і амаль ва ўсіх ЦРК ёсьць прарыў у гэтай галіне.

Ня гледзячы на тое, што Бабруйскі ЦРК павінен быў у верасьні м-цы правесьці падрыхтоўчую працу і прыступіць да праверкі наборных кніжак, ён каля 2 тыдняў узгадняе пытаньне з мясцовымі прафарганізацыямі, не распачынаючы гэтае працы. Пры тым, па думцы адказных працаўнікоў ЦРК, праверку ня трэба ўтвараць.

Менскі ЦРК праводзіць работу толькі ў 3 пунктах, а трэба праводзіць у 20 пунктах.

Гомельскі ЦРК па сваіх старых традыцыях наважыўся пасаматужнічаць і ня прыняў у аснову дырэктыў і інструкцый БКС, дзякуючы гэтаму ЦРК праверыў 10.000 пайнікаў, і цяпер прыдзецца правяраць іх зноў. Такое становішча наглядаецца і ў астатніх ЦРК. Грамадзкасьць слаба прыцягнута, адпаведная работа сярод рабочых па растлумачэньні задач праверкі не праведзена.

У Мазырскім ЦРК усё было падрыхтавана, і была пачата праверка, але на справе выявілася, што вылучаныя брыгадзіры не зьявіліся, і праверку ўтвараў тэхнічны апарат ЦРК; дзякуючы гэтаму праўленьне спыніла праверку.

У Гомельскім ЦРК з вылучаных 380 брыгадзіраў працуюць толькі 80. Прафарганізацыі не ўдзяляюць дастатковай ўвагі гэтаму пытаньню, ня маюць сталага кантролю за ходам гэтай работы і не аказваюць належнага садзейнічаньня для хутчэйшага і правільнага правядзеньня гэтай работы.

Трэба зараз ліквідаваць прарывы. З усёй энэргіяй трэба ўзяцца за працу па праверцы наборных кніжак. Прафсаюзы павінны аказаць максымальнае садзейнічаньне ў гэтай справе. Работа павінна быць праведзена так, як гэтага патрабуюць партыя і савецкая ўлада: мёртвыя душы павінны быць зьняты з забесьпячэньня; трэба ўтварыць паказальныя суды над тымі пайнікамі, якія злоўжываюць наборнымі кніжкамі. Грамадзкасьць каапактыву павінна прыняць самы актыўны ўдзел і дапамагчы выявіць усе выпадкі злоўжываньняў па атрыманьні дэфіцытных тавараў.

В-кі

## Як Бабруйскі ЦРК выконвае важнейшыя дырэктывы ў галіне рабочага забесьпячэньня

Згодна дырэктывы праўленьня БКС, Бабруйскі ЦРК да 1/Х-30 г. павінен быў арганізаваць два зачыненыя разьмеркаваццелі. Пытаньне аб арганізацыі зачыненых разьмеркаваццеляў было абгаворана праўленьнем Бабруйскага ЦРК яшчэ 28/VііІ-30 году, але-ж да практычнае працы па правядзеньні ў жыцьцё прапаноў БКС і сваіх ЦРК не прыступаў да другой паловы верасьня м-ца. Падрыхтоўчая праца па арганізацыі зачыненых разьмеркаваццеляў праведзена недастаткова. Рабочым не растлумачана яскрава аб зачыненых разьмеркаваццелях, ларкі на прадпрыемствах дрэнна абсталяваны, колькасьць іх недастатковая. На заводзе камбінату ёсьць ларок на 3.500 рабочых.

Забесьпячэньне прадуктамі сталоўкі камбінату не ўтвараецца. Якасьць абедаў, асабліва ў апошні час, пагоршылася. Сталоўка па сваёй прапускной здольнасьці ня можа ахапіць усіх рабочых. Сталоўка разьлічана на 200—300 абедаў, тымчасам як у сучасны момант, пры 3-зьменнай працы, яна адпускае да 3.500 абедаў, а ўзімку неабходна будзе адпускаць да 6.000 абедаў.

Абслугоўваньне чыгуначнікаў па лініі чыгункі ўтвараецца праз два вагоны-крамы, якія бываюць у месцох астановак толькі адзін раз у месяц. На нарадзе каапкамісіі чыгуначнікаў высьветліліся такія факты: да 25/ІХ у крамах ЦРК штаны і прагумовыя паліто адпускаліся па кніжках пайнікаў без талёнаў усім пайнікам, а чыгуначнікам праз вагоны-крамы адпускалася абмежаваная колькасьць гэтых тавараў—некалькі пар штаноў, ды і тыя самых малых разьмераў. Абутак жаночы і дзіцячы пасылаецца малых нумароў: жаночы—да № 36, а дзіцячы—да 2-х год.

Калі пернікі мясцовай вытворчасьці ва ўсіх ларках гораду адпускаюцца бяз кніжак і без абмежаваньня, дык з вагонаў-крам чыгуначнікам адпускаюць па 200 грам на кніжку раз у месяц.

Вось як праўленьне Бабруйскага ЦРК выконвае дырэктывы аб абслугоўваньні рабочых прадпрыемстваў і чыгуначнікаў.

Згодна пляну, ЦРК павінен быў засаліць 278 тон гуркоў і 73 тоны памідораў, фактычна-ж гуркоў засолена 80 тон і памідораў—3 тоны.

Дырэктыва БКС аб правядзеньні праверкі наборных кніжак да апошняга часу ня выконваецца. У адказных працаўнікоў склалася думка, што праверку трэба праводзіць не цяпер, а адтэрмінаваць яе да перарэгістрацыі пайнікаў, альбо ўтварыць частковую праверку. Такія разважаньні спрыяюць таму, што ніякая падрыхтоўчая праца не праводзіцца, і праверка адкладваецца на няпэўны тэрмін. Гэта адбываецца ў той час, калі ёсьць шэраг злоўжываньняў наборнымі кніжкамі. Барацьба з усялякім родам злоўжываньняў дэфіцытнымі таварамі з боку ЦРК не праводзіцца.

Рэўкамісіяй у апошні час высьветлены злачынствы ў перапродажы на рынку дэфіцытных тавараў, але грамадзкая думка вакол гэтага пытаньня не завострана.

У чэрвені месяцы ЦРК былі выпушчаны спэцыяльныя боны на атрыманьне дэфіцытных тавараў. Ад каго гэтыя авансы прымаліся, каму прададзены боны—ЦРК ня ведае.

Заданьне на збор мэтавых авансаў пад тавар на верасень месяц выканана ўсяго на 56 проц.

Трэба сказаць, што ў працы ЦРК няма ніякай плянавасьці. Падлік выкананьня важнейшых заданьняў адсутнічае. Калі прыбыло заданьне на верасень месяц па збору мэтавых авансаў, пачалася дыскусія, хто павінен правесьці працу па разьмеркаваньні мэтавых авансаў на тавары: бухгальтэрыя ці аргаддзел? Дзякуючы гэтаму разьмеркаваньне было даведзена да асобных прадпрыемстваў і калектываў толькі 16—17 верасьня.

Кіраўніцтва ЦРК за зрыў важнейшых дырэктыў павінна панесьці суровую кару: такая праца зьяўляецца правым ухілам на практыцы.

---

Я. Рачны

# Аргнарада рабочай каапэрацыі БССР

Шэраг вельмі важных і баявых пытаньняў, якія высунуты перад спажкаапэрацыяй апошнімі пастановамі партыі, зьяўляўся прадметам абгаварэньня на арганізацыйнай нарадзе рабочай каапэрацыі Беларусі.

Арганарада праверыла, як цэрабкоопы праводзяць важнейшую дырэктыву аб праверцы наборных кніжак. Значныя злоўжываньні наборнымі кніжкамі і дэфіцытнымі таварамі, якія ў апошні час прынялі асабліва буйны характар, выклікаюць вялікія перавыдаткаваньні дэфіцытных тавараў і прадуктаў і тармозяць арганізацыю пляновага забесьпячэньня асноўных прамысловых груп рабочых. Таму праверка павінна была быць праведзена баявым тэмпам з прыцягненьнем усяе пралетарскай грамадзкасьці.

На жаль, аргнарада прымушана была канстатаваць, што гэта адказная дырэктыва шэрагам ЦРК ня была прынята да тэрміновага выкананьня і што праверка ня была ўсьвядомлена, як важнейшая палітычна-гаспадарчая кампанія. Да часу скліканьня нарады шэраг ЦРК яшчэ не прыступіў да праверкі, а па большасьці арганізацый і падрыхтоўчая праца не праводзілася.

Гомельскі ЦРК не падрыхтаваў тэхнічнага апарату і ўсю тэхнічную працу па праверцы праводзіў недастаткова праінструктаванымі добраахвотнікамі-рабочымі. Інструкцыя БКС цэрабкоопам зьменена, праверка праводзілася шляхам абходу кватэр, а вучот да таго быў спрошчан, што 10000 спажыўцоў праверана без усялякага вучоту.

Ніякая падрыхтоўчая праца ня была праведзена Бабруйскім ЦРК. Пытаньне ня было ўзгоднена ім з прафарганізацыямі і не абмяркоўвалася на рабочых сходах. Такі самы малюнак наглядаецца і па Аршанскім і Добрускім ЦРК. Барысаўскі ЦРК праводзіў праверку апаратным шляхам, без усялякага ўдзелу грамадзкасьці. Праверка наогул ня была разгорнута ў палітычна-гаспадарчую кампанію, і вакол яе не мабілізавана пралетарская грамадзкасьць.

Аргнарада ўдзяліла гэтаму важнаму пытаньню шмат увагі і, пасьля ўсебаковага абгаварэньня, прыняла пастанову аб неабходнасьці ў бліжэйшыя дні зрабіць рашучы пералом у тэмпах і формах правядзеньня праверкі. Прызнана неабходным ускласьці асабістую адказнасьць за пасьпяховае правядзеньне праверкі на загадчыкаў аргаддзелаў. Неабходна паставіць пытаньне на гарсавеце і дабіцца абавязковай пастановы аб

праверцы і дапамозе гатай справе з боку жактаў. Трэба паставіць перад гарсаветам і гаркомам КСМ пытаньне аб выкананьні дырэктыў ЦСПСБ і ЦК КСМБ у адносінах аказаньня каапэрацыі максымальнай дапамогі ў правядзеньні праверкі. Працаўнікі стала пайнікаў павінны быць правераны ў трохдзённы тэрмін. Выяўленыя злоўжываньні павінны быць скарыстаны для тэрміновага правядзеньня паказальных працэсаў. Уся праца па праверцы наборных кніжак павінна быць больш шырока асьветлена ў друку і насьценгазэтах.

Усебакавае абгаварэньне знайшла і другая баявая дырэктыва партыі аб арганізацыі зачыненых разьмеркавацеляў. Рабочая грамадзкасьць Беларусі сваячасова адгукнулася на заклік „Праўды" і ўхваліла ідэю зачыненых разьмеркавацеляў, як асноўную форму рабочага забесьпячэньня. Аднак, важнасьць і палітычна-гаспадарчая значнасьць гэтага мерапрыемства не знайшлі належнай ацэнкі па шэрагу арганізацый. Дырэктыва Белкаапсаюзу аб арганізацыі да 15-га верасьня 9 разьмеркавацеляў і да 1-га кастрычніка 29 ня была выканана ў тэрмін. Разгортваньне працы пачалося толькі пасьля 1-га кастрычніка. У ходзе арганізацыі зачыненых разьмеркавацеляў зьяўляецца характэрным фармальны падыход да гэтай справы. Грамадзкасьць вакол гэтага пытаньня разгортваецца слаба. Загадчыкі разьмеркавацелямі ня ўсюды абіраюцца, не пераабіраецца таксама каапактыў (каапбюро і крамкамісіі). Амаль што зусім не праводзіцца рацыяналізацыя працы і мерапрыемствы па барацьбе з чаргамі. Устаноўка на тое, што зачынены разьмеркавацель павінен быць арганізаваны як узорны, паказальны магазын, яшчэ не засвоена. Самае большае з рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў—гэта фасоўка. Аб арганізацыі сыстэмы папярэдніх заказаў і дастаўкі тавараў на дом ніхто і не клапаціўся. Гэта зьяўляецца прычынай таго, што ў зачыненых разьмеркавацелях яшчэ існуюць чаргі. Мала што робіцца і ў адносінах адводу для разьмеркавацеляў лепшых памяшканьняў і іх належнага прыстасаваньня да арганізацыі ў іх новай формы разьмеркаваньня. Для такога буйнага і значнага прадпрыемства, як „Энэргія", адведзена зусім дрэннае памяшканьне.

Пры арганізацыі разьмеркавацеляў дапушчаны некаторыя скрыўленьні і ненармальнасьці. Не ўдасканалены той асартымэнт, які прымацаваны павінен атрымліваць выключна з разьмеркавацеля. Калі адзін прымацаваны да разьмеркавацеля пажадаў купіць у магазыне „Маць і Дзіця" дзіцячую бялізну, яму ў гэтым адмовілі на тэй падставе, што ён прымацаваны да зачыненага разьмеркавацеля, між тым у разьмеркавацелі асартымэнту дзіцячай вопраткі зусім няма. Адмацаваныя ад разьмеркавацеляў не накіроўваюцца да вызначаных магазынаў для прымацаваньня, і гэтыя пайнікі доўга блытаюцца, пакуль які-небудзь магазын згодзіцца іх прыняць. Былі адзначаны і выпадкі горшага забесьпячэньня зачыненых разьмеркавацеляў у параўнаньні з іншымі магазынамі.

Некаторыя арганізацыі не зразумелі значэньня зачыненых разьмеркавацеляў, як формы палепшаньня забесьпячэньня рабочых асноўных прамысловых прадпрыемстваў. Гэтыя арганізацыі плянавалі ахоп зачыненымі разьмеркавацелямі нават і саматужнікаў і амаль што ўсяго насельніцтва гораду.

У сваёй пастанове па гэтым пытаньні аргнарада падкрэсьлівае ўсю палітычную важнасьць правільнай арганізацыі зачыненых разьмеркавацеляў, як асноўнай формы рабочага забесьпячэньня. Аргнарада адзначыла, што арганізацыя зачыненых разьмеркавацеляў па некаторых каапэратывах выражаецца толькі ў пераафарбаваньні шыльды. Асаблівую ўвагу цэрабкоопы павінны звярачваць на разгортваньне грамадзкасьці вакол разьмеркавацеля і на рацыянальную арганізацыю яго працы. У адносінах абодвух гэтых момантаў аргнарада прыняла шэраг практычных прапаноў.

З наступных пунктаў абвесткі дню аргнарады найбольшае месца занялі пытаньні аб масавым рабочым

кантролі над спажкаапэрацыяй і абслугоўваньні чыгуначнікаў. Хаця па гэтых двох пытаньнях што-кольвек было зроблена, але ў параўнаньні з тымі вялікімі задачамі, якія ўскладаюцца азначанымі дырэктывамі, амаль што нічога не праароблена. Характэрным зьяўляецца торг паміж некаторымі арганізацыямі за „маіх“ і „тваіх“ чыгуначнікаў, у выніку чаго прыяжджаючыя паязныя брыгады не забясьпечваліся дастатковымі прадуктамі. Марудна праходзіла праца па арганізацыі кругла-сутачных сталовак і ларкоў. Зусім агідныя адносіны праявіў Аршанскі ЦРК, які некаторы час адмаўляўся прадаставіць пад зачынены разьмеркавацель для чыгуначнікаў былы магазын Т. С. Т. Гэты магазын ЦРК прадаставіў толькі пасьля добрага націску з боку БКС. Аргнарада дала належную ацэнку гэтакай працы і пастанавіла зрабіць спэцыяльнае абсьледваньне становішча абслугсўваньня чыгуначнікаў.

Па дакладу аб рэарганізацыі структуры ЦРК аргнарада ўхваліла зацьверджаны праўленьнем БКС праект. Новая структура павінна забясьпечыць большую гнуткасьць і плянавасьць у працы і лепш прыстасаваць апарат да правядзеньня ўскладзеных на рабочую каапэрацыю вялікіх задач.

Аргнарада рабочай каапэрацыі БССР сабралася пасьля перапынку амаль што ў два гады. Яна мела вялікае значэньне ў сэнсе выяўленьня жывой практыкі месц і бязьлітаснага выкрыцьця ўсіх хваравітых момантаў. Аргнарада дала значны штуршок у бок больш буйнага разгортваньня і палепшаньня працы ў адпаведнасьці з тэмпамі і задачамі сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта зразумелі ўсе, хто выступаў, пашкадавалі аб тым, што нарада склікана са спазьненьнем і выказалі пажаданьне аб больш частым скліканьні арганізацыйных нарад.

М. Чавускі

# Вылучэнцаў—на камандныя вышыні

Складаныя задачы ў галіне гаспадарчай, арганізацыйнай, культурнамасавай і бытавой працы ў сувязі з агульным разгортваньнем сацыялістычнага будаўніцтва, ставяць вельмі востра пытаньне аб кіруючых, клясава вытрыманых кадрах ва ўсіх зьвеньнях спажкаапэрацыі.

Усім вядома, што наш апарат, ня гледзячы на адбыўшуюся нядаўна чыстку, яшчэ далёка ня выкрышталізаваўся. Мы маем яшчэ цэлы шэраг чужых элемэнтаў, якія не прыстасавалі сваю працу да агульных тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, і наогул элемэнтаў, якія ўжываюць гандлярскія мэтады працы.

І вось для таго, каб ахапіць усе вучасткі шырокага фронту працы спажкаапэрацыі і каб зьнішчыць нарасьць нягодных і няздольных элемэнтаў у нашых апаратах, трэба больш востра і рашуча ставіць задачу аб замацаваньні на кіруючай і адказнай працы ў апараце спажсыстэмы рабочых, батракоў, беднякоў і калгасьнікаў.

Як жа справілася з гэтай задачай спажкаапэрацыя?

Да сучаснага моманту ніводнае зьвяно спажсыстэмы ня мела строга распрацаванага пляну арабочваньня апарату, цэнтральны-ж апарат не кіраваў гэтай працай. Уся праца зьверху данізу праходзіла без усялякай плянавасьці і сыстэмы.

Па зьвестках за 1929 год, колькасьць вылучэнцаў была зусім нязначнай.

У красавіку месяцы ў цэнтральным апараце Белкаапсаюзу было 7 вылучэнцаў. У сучасны момант на першы погляд мы маем павялічэньне вылучэнцаў да 25 асоб, але калі прыняць пад увагу тое, што апарат Белкаапсаюзу, у сувязі з ліквідацыяй акруг, значна пашыраны, дык гэта лічба зусім ня можа задаволіць нас.

У былых акрсаюзах на 1 ліпеня, па атрыманых зьвестках, было 99 вылучэнцаў. Праўда, гэтыя зьвесткі ня поўныя, але калі прыняць гэтую лічбу, як мінімальную, і тое, што ў гэты лік ўваходзіць каля 30 заг. магазынаў і баз, нарыхтоўшчыкі і г. д., дык ясна, што ніякай працы па арабочваньню апарату былых райсаюзаў і аддзяленьняў не вялося.

Па ЦРК мы маем таксама, па няпоўных даных, на 1 ліпеня г. г. 257 вылучэнцаў. Характэрна, што з гэтай колькасьці членаў праўленьня па ўсіх ЦРК БССР усяго 8 асоб, загадчыкаў і нам. загадчыкаў сэктараў 20 асоб і 30 асоб інструктароў. Астатнія зьяўляюцца загадчыкамі і намесьнікамі загадчыкаў сталовак, складаў, магазынаў і г. д.

Гэтыя прыведзеныя даныя па ўсёй сыстэме спажкаапэрацыі сьведчаць аб маруднай працы ў галіне арабочваньня апарату, нават і ў дачыненьні да колькасных паказальнікаў.

Лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) вынес пастанову аб вылучэньні рабочых у дзяражаўны, савецкі і каапэрацыйны апарат. У разьвіцьцё гэтае пастановы ЎсеЦСПС сумесна з Цэнтрасаюзам пастанавілі вылучыць у каапэрацыйны апарат СССР 10.000 рабочых. З гэтай колькасьці вылучэнцаў, згодна разьвёрстцы, спажкаапэрацыя БССР павінна была арабочыцца на 404 вылучэнцы з рабочых.

Ня гледзячы на даныя яскравыя паказаньні ўсім акруговым саюзам, аддзяленьням і ЦРК ў маі месяцы, а пасьля і цэлы шэраг напамінаў аб рэалізацыі гэтай пастановы, яна на сёньняшні дзень канчаткова ня

выканана нават і ў колькасных паказальніках. Гэта, на жаль, адбываецца ў той час, калі спажкаапэрацыя мае ўсе магчымасьці скарыстаць тыя вялізарныя рэзэрвы з асяродзьдзя рабочых, батракоў, беднякоў, калгасьнікаў і дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, якія зьвязаны з спажкаапэрацыяй ў штодзённай актыўнай працы праз органы грамадзкасьці і кантролю, якія працуюць у брыгадах, камісіях і г. д.

Калі мы гаворым аб тым, што нас не здавальняе колькасьць вылучэнцаў у апаратах спажсыстэмы, што спажсыстэма праявіла маруднасьць у гэтай справе, дык у справе правільнага і мэтазгоднага скарыстаньня, у справе замацаваньня вылучэнцаў на сапраўды адказнай і кіруючай працы праяўлены яўна гандлярскі падыход і злачынная маруднасьць з боку апаратаў сыстэмы спажкаапэрацыі. Кіраўнікі ўстаноў спажсыстэмы ня хочуць разумець таго, што ў кадрах для сацыялістычнай прамысловасьці на працягу ўсяго часу адчувалася пільная патрэба. Рабочая кляса вылучала сваіх лепшых актывістых, лепшых працаўнікоў вытворчасьці, сваіх ударнікаў у апараты спажсыстэмы, каб апошнія былі на чале ўсяе працы спажкаапэрацыі.

Сыстэма спажкаапэрацыі ігнаравала самую ідэю вылучэнства і саміх вылучэнцаў. Працягваюць паступаць зьвесткі аб займаемых пасадах вылучэнцаў: сярод іх фігуруюць пасады прыказчыкаў і „старэйшых" прыказчыкаў, нам. загадчыкаў крам, тым часам як у гэтых крамах працуюць усяго 3 асобы.

Мы маем цэлы шэраг выпадкаў, калі вылучэнцы-інструктары цэнтральнага апарату, пры ўтварэньні на месцох абсьледваньня, ігнаруюцца кіраўнікамі сыстэмы. Замест таго, каб дапамагчы вылучэнцу, стараюцца ўсяляк падарваць яго аўтарытэт, праяўляюць фанабэрыю і замкнёнасьць у працы. Калі вылучэнец зробіць вынікі абсьледваньня ня ў духу таго ці іншага праўленьня ЦРК ці райспажтаварыства, дык гэты вылучэнец, на іх думку, зьяўляецца кепскім працаўніком.

Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 20 кастрычніка аб спыненьні на бліжэйшыя два гады вылучэньня рабочых у кіруючыя апараты, у мэтах захаваньня кадраў, кваліфікаваных рабочых на прадпрыемствах, абавязвае нас яшчэ і яшчэ раз перагледзець, як расстаўлены сілы вылучэнцаў па усёй сыстэме спажкаапэрацыі.

Гэтая пастанова яшчэ раз падкрэсьлівае, якую бяздушную маруднасьць праявіла спажкаапэрацыя ў пытаньні арабочваньня апарату Калі фабрыкі, заводы, адчуваючы пільную патрэбу ў кваліфікаванных кадрах, вылучалі свае лепшыя сілы на кіруючую працу, апараты спажкаапэрацыі не забясьпечылі свае камандныя вышыні рабочымі-вылучэнцамі, а стараліся ўсяляк замацаваць вылучэнцаў на другараднай працы.

Калі ЦК мэталістых павінен быў мабілізаваць 20 лепшых ударнікаў для кіруючай працы ў спажкаапэрацыі, дык на яго запытаньне Менскаму ЦРК, на якіх пасадах ён можа скарыстаць 5 вылучэнцаў, Менскі ЦРК не знайшоў другіх пасад для вылучэнцаў, акрамя намесьнікаў дрывяных складаў.

Назваць гэта дыскрэдытацыяй ідэі вылучэнства мала. Гэта ня што іншае, як супраціўленьне арабочваньню каапэрацыйнага апарату.

Цяпер гаварыць аб накіраваньні з фабрык і заводаў рабочых для кіраўнічага апарату ня прыходзіцца. Каб у некаторых „каапэратараў" не наступіла заспакаеньне ў справе арабочваньня апарату, мы патрабуем ад спажкаапэрацыі, ад грамадзкасьці замацаваць вылучэнцаў, якія ўжо працуюць, на камандных вышынях. Мы патрабуем зьняць лепшых вылучэнцаў з другараднай працы і даручыць ім сапраўды адказны вучастак працы ў спажкаапэрацыі. Трэба заняцца сапраўдным прасоўваньнем вылучэнцаў на больш адказную працу, зрабіць перастаноўку сіл вылучэнцаў зьнізу даверху.

Ня менш важна шырэй ахапіць вылучэнцаў вучобай, выкарыстаўшы ўсе вучэбна-курсавыя мерапрыемствы спажсыстэмы па падрыхтоўцы кадраў,

арганізоўваць, акрамя таго, спэцыяльныя курсы для вылучэнцаў, прапускаючы іх у далейшым праз курсы перападрыхтоўкі падвышэньня кваліфікацыі. Гэта не аслабаняе ад навучаньня вылучэнца на практычнай працы, а таксама ад прымацваньня яго да асобных спэцыялістых для атрыманьня ведаў і звычак у працы.

Вылучэнец павінен мець канкрэтную адказную кіруючую працу, працу, якая выразна характарызавала-б функцыі і абавязкі яго, на базе чаго ён мог бы і разьвіваць сваю ініцыятыву.

Грамадзкасьць павінна ведаць, у якіх абставінах працуе вылучэнец, і як ён спраўляецца з даручанай яму працай. Для гэтага неабходна, каб партыйныя і прафэсіянальныя арганізацыі на мясцох былі зацікаўлены ўсёй працай па вылучэнству і жорстка рэагавалі на ўсялякія ігнараваньні і цкаваньні вылучэнцаў з боку кіраўнікоў установ.

Неабходна раз назаўсёды адмовіцца ад кавалерыйскага наскоку грамадзкіх арганізацый у пытаньні загрузкі грамадзкай працай вылучэнцаў. Трэба памятаць, што перш за ўсё трэба даць вылучэнцу лейцы апарату ў рукі, а калі ён здолее поўнасьцю выканаць гэтую працу, тады загружаць яго ўжо грамадзкай працай.

Уся грамадзкасьць, як парт'ячэйка, мясцком, павінны праявіць максымум гнуткасьці ў стварэньні спрыяючых умоў працы для вылучэнца на яго пасадзе. Таварышоў, апраўдаўшых сябе, прасоўваць далей.

Кожнае зьвяно спажкаапэрацыі павінна мець строга распрацаваны плян, на якія пасады неабходна прасунуць апраўдаўшага сябе вылучэнца. У сучасны момант гэта трэба мець на ўвазе пры перавыбарах праўленьняў.

Спажсыстэме трэба распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы замяшчэньня вольных пасад. Уся гэтая праца павінна праходзіць не габінэтным парадкам, а галоўным чынам апірацца на грамадзкасьць.

Сэктар кадраў БКС павінен узяць на сябе сапраўднае кіраўніцтва і ажыцьцяўленьне кантролю гэтай працы.

Бязьлітаснай барацьбой з марудпасьцю і палахлівасьцю ў справе сапраўднага арабочваньня каапэрацыйнага апарату, мабілізуючы грамадзкасьць для ўдзелу ў гэтай справе, мы даб'емся таго, каб рабочыя вылучэнцы займалі камандныя вышыні і ўсе адказныя вучасткі працы ў спажкаапэрацыі.

# Сампрамкаапэрацыя БССР

I. К-ін

## За рацыяналізацыю працы

Сваёю пастановаю ад 4 верасьня гэтага году прэзыдыум ЦКК-РСІ СССР ва ўсю шырыню паставіў перад гаспадарнікамі пытаньне аб больш рашучым правядзеньні ў жыцьцё рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў. Гэта пастанова мае адносіны і да прамсаматужнай каапэрацыі БССР, якая мае асаблівую патрэбу ў рацыяналізацыі пытаньняў вытворчасьці, арганізацыі навукова-дасьледчай працы, распрацоўцы стандартызацыі сваіх вырабаў, ажыцьцяўленьні памену вопытам ня толькі сярод свае сыстэмы, але і ўсяго нашага Саюзу. Для гэтай мэты сыстэме неабходна было-б зараз прыступіць да ўкамплектаваньня рацыяналізатарскага бюро пры БСПС кваліфікаванымі зарэкамэндаванымі працаўнікамі сыстэмы, якія ў дастатковай ступені паказалі сябе здольнаю сілаю, якая зможа зрабіць нам каштоўную паслугу на гэтым важным вучастку працы.

Пастановай прадугледжана стымуляваньне рацыяналізатарскай ініцыятывы шляхам вылучэньня спэцыяльных фондаў фінансаваньня рацыянальнай працы, прэм'яваньня за эфэктныя прапановы па рацыяналізацыі, выдачы ў выглядзе прэміі камандыровак на другія прадпрыемствы Саюзу і нават за мяжу. Сродкі па ўтрыманьню органаў рацыяналізацыі аднесены на незалежныя выдаткі. Сетка па тарыфікацыі рацыяналізатараў пераглядаецца адпаведнымі арганізацыямі, што, бязумоўна, зацікавіць усіх працаўнікоў установы, але для гэтай справы неабходна зацікаўленасьць і гнуткасьць кіраўнікоў сыстэмы.

Мясцовая прэса шмат разоў вуснамі сваіх рабселькустквраў сыгналізавала аб непарадках, што творацца ў сыстэме прамкаапэрацыі БССР, аб непарадках, якія мяжуюцца часам са шкодніцтвам. Пытаньне палепшаньня якасьці ў нашай сыстэме зьяўляецца кампанейскім, і варта толькі прэсе замаўчаць на некаторы час аб крыклівых фактах пагоршаньня якасьці, як аб гэтым больш нідзе ні гу-гу.

Трэба канстатаваць, што пытаньню рацыяналізацыі ў нас да гэтага часу вельмі мала ўдзялялася ўвагі. Усё неяк ідзе самацёкам, у сыстэме адсутнічае кіраўніцтва рацыяналізацыяй, а ў Белсампрамсаюзе, к нашаму сораму, да гэтага часу ня вылучан спэцыяльны працаўнік, які ведаў бы гэтым важным вучасткам работы сыстэмы, а між тым работа ў нашай сыстэме чым дальш, тым больш пагаршаецца. Недагруз абсталяваньня, выкліканыя далёка не аб'ектыўнымі прычынамі прагулы рабочых арцеляй усё павялічваюцца, якасьць прадукцыі таксама адстае ад фактычнай патрэбнасьці. Наш каапэрацыйны актыў, пакінуты на волю лёсу, бясспрэчна, ня ведае аб вышэйазначанай пастанове,

Неабходна ў тэрміновым парадку дамагчыся пералому ў гэтай важнай справе, праўленьне БСПС неабходна як найхутчэй вылучыць з свайго асяродзьдзя спэцыяльнага члена праўленьня для кіраўніцтва бюро рацыяналізацыі. Неабходна ўзмацніць культасьветную працу сярод саматужнікаў, чым будуць выкліканы энтузыязм і тысячныя прапановы па рацыяналізацыі нашае вытворчасьці. З нашае сыстэмы павінна быць выкарчавана магчымае процідзеяньне рацыяналізацыі, і гэты факт трэба кваліфікаваць як шкодніцтва, заместа чаго стварыць спрыяючыя ўмовы работы для рацыяналізатара, садзейнічаць уцягненьню шырокіх мас нашых працаўнікоў ня толькі апарату, але і ўсяе сыстэмы ў працу сацыялістычнай рацыяналізацыі.

Катляроў

# Абвесьцім вайну стратам

1. Таму, што мы нерацыянальна выкарыстоўваем палева, мы штогодна маем страту да 300.000.000 руб.

2. Выкідваючы водкіды мясных, рыбных, плодагароднінных і іншых харчовых прадуктаў, мы трацім роўна 200.000.000 руб. штогодна.

3. Вылічана, што ў нас 42 проц. тары зьнішчаецца Гэтым самым мы трацім штогодна да 600.000.000 руб.

4. Пры рацыянальнай ўпакоўцы тавараў мы маглі-б з'экономіць на працягу 5 год да 3.000.000 кубамэтраў фанэры і г. д.

(Па даных, апублікаваных у гандлёва-прамысловай газэце ад 20 сьнежня 1929 году).

Match Рознастайнасьць промыслаў прамкаапэрацыі, поўная адсутнасьць статыстычных даных па пытаньнях страт і недастач у сыстэме не дае нам магчымасьці пералічыць усе выпадкі страт, якія маюць месца ў нашай сыстэме. Якія-б рознастайныя прычыны страт ні былі ў вытворчасьці, якія-б ні былі шматлікія іх праяўленьні, усё-ж мы не павінны адмовіцца ад высьвятленьня іх прычын, каб мець магчымасьць абвясьціць жорсткую барацьбу гэтым злачынствам, якія нерашкаджаюць сацбудаўніцтву нашае краіны.

Самым асноўным і найбольш сур'ёзным відам страт зьяўляецца пралежваньне недаапрацаваных вырабаў, г. зн. тут мы маем страту на тэмпах вытворчасьці. Большая колькасьць няскончаных вырабаў падвышае сабекаштоўнасьць прадукцыі і павялічвае накладныя выдаткі сыстэмы.

Другім вялікім відам страт зьяўляецца брак на вытворчасьці ці брак вырабаў, атрымліваемых з другіх заводаў. Напрыклад, арцелі па выпрацоўцы грабянёў з цэлюлёідавых і іншых відаў сыравіны атрымліваюць цэлюлёід з абсалютным бракам і выпускаюць брак у грабянёх, што, пры наяўнасьці і без таго вялікіх накладных выдаткаў (як недагруз, абстаўляваньне на 20 проц.), падвойвае сабекаштоўнасьць вырабаў і гэтым самым даводзіць сыстэму да развалу. Трэба адзначыць, што наш прарыў у будаўнічым матар'яле (цэгла) таксама выкліканы нязьлічоным бракам (гісторыя з Ляднянскім і Калінкавіцкім цаглянымі заводамі). Значныя страты дасьць нашай сыстэме нескарыстаньне замежнага і мясцовага абсталяваньняў, што можна сказаць пра ўсю нашу сыстэму (арцель „Спартак", „Пралетары", арцель імя Крупскай і шавецкія арцелі). Як на самы абураючы факт, трэба паказаць на гісторыю з 25 машынамі-аўтаматамі, якія выпісаны для Гомельскага гарпрамсаюзу, у суме 3778 р. 80 к., па рах. № 286/260, і якія з жніўня месяца ляжаць на складах гэтага саюзу і да гэтага часу не скарыстоўваюцца.

Вялікая прычына страт — гэта галавацяпства з перавозкай матар'ялаў, якая робіцца далёка ня так, як трэба. Напрыклад, конь, які высылаецца з Капыля ў Менск для дастаўкі тавараў Копыльскім арцелям, едзе ў Менск зусім пустым. У нашай сыстэме разам з цэлым шэрагам аб'ектыўных прычын, пра што мы гаварылі на старонках нашай прэсы, зусім дрэнна пастаўлен вытворчы інструктаж. Вельмі слаба працдысцыпліна, зусім адсутнічае тэхнічны кантроль, што, бязумоўна, дрэнна адбіваецца на вытворчасьці і гэтым самым выклікае нежаданыя страты, якія вельмі дорага каштуюць нашай сыстэме. Адсутнасьць да гэтага часу спэцыяльнага бюро па рацыяналізацыі ў нашай сыстэме, дрэнная пляніроўка вытворчых працэсаў даюць базу накапленьня на нашых складах надзвычай вялікіх запасаў матар'ялаў і паўфабрыкатаў. Дрэннае тэхнічнае становішча абсталяваньня, нездавальняючае становішча арганізацыі вытворчасьці выклікаюць пераход паліва і электраэнэргіі. Няўважлівыя, часамі наплявацельскія адносіны да водкідаў у вытворчасьці,

недастатковая кваліфікацыя адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу зьяўляюцца прычынай таго, што водкіды зьнішчаюцца ў той час, калі яны павінны былі быць скарыстаны для патрэб сыстэмы (водкіды на вытворчасьці арцелі „Чырвоны Мэталіст“, якія павінна была скарыстаць арцель „Трудзеркало“, з-за адсутнасьці апошніх прымушана была камандыраваць спэцыяльных людзей ў Маскву і Ленінград для закупкі іх).

Нечыстата і неахайнасьць на прадпрыемствах і ў арцелях, якіх ня пільнуецца наша сыстэма, служаць падставай для вялікіх страт. Дастаткова паказаць, што амэрыканская фірма „Фордзон“ раней, чымся прыступіць да разьвіцьця якой-небудзь галіны вытворчасьці, приступае да забесьпячэньня чыстатой і ахайнасьцю данага прадпрыемства. Частыя перакіданьні рабочых арцеляй з цэху ў цэх, адсутнасьць знаёмства апошніх з працэсамі данага цэху вельмі часта зьяўляюцца прычынамі браку і страт.

Прычыны страт у залежнасьці ад розных абставін падзяляюцца на тры групы:

1. Прычыны, якія залежаць ад абставін матар'яльнага характару.

2. Прычыны, якія зележаць ад тэхнічнага і тэхналёгічнага характару, і

3. Прычыны арганізацыйнага характару.

Самыя-ж страты падзяляюцца на дзьве групы:

1. Страты яўныя.

2. Страты скрытыя.

Барацьба з яўнымі стратамі лягчэйшая, бо апошнія лёгка выяўляюцца.

Страты-ж скрытыя не паддаюцца выяўленьню, і тут неабходны веды самае вытворчасьці, тут патрэбна вытворчая, вялікая тэхнічная і арганізацыйная практыка.

Надаючы вялікае значэньне гэтай справе, праўленьне Белсампрамсаюзу вылучыла спэцыяльную камісію пад кіраўніцтвам сябра праўленьня, якая прыступіла да працы. Праца гэтай камісіі будзе праводзіцца пры поўным кантакце нашага прамкаапэрацыйнага актыву ў асобе ўдарнікаў, кусткораў і вытворчых сэктароў сыстэмы.

Нашы лёзунгі такія:

кожны дзень, кожны час вядзеце барацьбу з уцечкай энэргіі і матар'ялаў;

больш актыўнасьці і збору прапаноў працоўных нашай сыстэмы;

барацьба са стратамі—барацьба за пяцігодку.

Кожны наш супрацоўнік, кожны член адпаведнай арцелі павінен стаць актыўным барацьбітом са стратамі ў нашай сыстэме.

Усе супроць страт і марнатраўства ў нашай сыстэме.

---

С. Лодысеў

## Калінкавіцкі „Чырвоны Тэкстыльшчык“

У Мазырскім раёне ёсьць арцель „Чырвоны Тэкстыльшчык“, якая ў некаторых галінах сваёй вытворчасьці мае тыя ці іншыя дасягненьні. Праўда, у гэтай арцелі ў мінулым годзе ад пажару ў лістападзе месяцы 1929 г. быў зьнішчаны цэх мыцьця рызьзя і часткова пашкоджаны астатнія цэхі.

Аднак, на працягу будаўнічага сэзону бягучага году „Чырвоны Тэкстыльшчык“ здолеў аправіцца. Пачаў іосьці прыліў новых рабочых і асабліва работніц. Вось лічбы:

| | Агульны лік раб. | Колькі з іх жанчын |
|---|---|---|
| Мойка рызьзя | 103 | 90 |
| Выраб рукавіц | 35 | 24 |
| „ панчох | 22 | 20 |
| Ткацкі | 26 | 24 |
| Мяшкова-рагожны | 14 | 14 |
| Кляёначна-сартыровачны | 62 | 62 |
| Цагельны завод | 62 | 2 |
| Усяго | 324 | 236 |

Ёсьць некаторае павялічэньне і вытворчасьці прадукцыі, а менавіта: у першым квартале было выпрацавана на 83.547 р., у другім квартале на 117.156 руб., і ў трэцім на 227.197 р. Зьніжэньне сабекошту ў трэцім квартале, супроць другога кварталу, дасягнута на 12,5 проц., але-ж па цэху хустак сабекошт яшчэ і па сёньняшні дзень не зьмяншаецца.

Цяпер ў кароткіх рысах спынімся на тых недахопах, якія маюцца ў рабоце „Чырвонага Тэкстыльшчыка".

Калі казаць аб рабоце цэхавых вытворчых нарад, дык трэба адзначыць, што яны працуюць кепска. Горш гэтага, яны нават не зразумелі сваіх новых задач і зачастую займаюцца момантамі рвацтва і сваімі асабістымі справамі. Сацспаборніцтва паміж цэхамі не разгорнута, аб чым нам сьведчыць і тое, што са ўсіх цэхаў „Чырвонага Тэкстыльшчыка" уступіла ў сацспаборніцтва толькі... 2. Тут неабходна зараз-жа разгарнуць растлумачальную работу аб задачах вытворчых нарад і ўцягненьня рабочых ў сацспаборніцтва як паміж цэхамі, так і паасобнымі рабочымі і работніцамі.

Масавая работа сярод рабочых і работніц пастаўлена дрэнна, дзякуючы чаму і падпіска па пазыку „Пяцігодка за чатыры гады" прайшла слаба, аб чым гавораць наступныя лічбы: зарплата ў жніўні месяцы складала 11.739 руб, а падпіска праведзена на 4.470 руб., што складае 38,5 проц. месячнай зарплаты, а таму праўленьне „Чырвонага Тэкстыльшчыка" прыдзецца зрабіць ў гэтым напрамку пэўны пералом з тым, каб уцягнуць усіх рабочых на падпіску, давёўшы апошнюю ня менш як да 50 проц. месячнай зарплаты.

Праўленьне арцелі дапусьціла безгаспадарчасьць ў адносіне пабудовы цагельнага заводу № 2, які пабудаваны на пэўным месцы без адпаведнага аналізу гліны, у выніку чаго выпуск псаванай цэглы складае каля 100.000 штук і на такі-ж лік цэглы загатоўлена нядобраякаснага сырцу. Між іншым, ня гледзячы на дрэнную якасьць гэтае цэглы, праўленцы ўмудрыліся 60.000 штук, як гэта кажуць, „сплавіць". Гэта значыць, проста кажучы, надуць кой каго.

Далей. Улічваючы тое, што „Чырвоны Тэкстыльшчык" пад сваім загадам мае некалькі цагляных заводаў і што маючыся завод, у карыстаньні Антонаўскага сельскага камітэту ўзаемадапамогі, ня мае сваіх адпаведных сродкаў для далейшага яго разьвіцьця, неабходна апошні пасьля сканчэньня сэзону бягучага году перадаць ў непасрэднае веданьне і карыстаньне „Чырвонага Тэкстыльшчыка".

З выкананьнем прамфінпляну ў чацьвёртым квартале справа абстаяла ня зусім добра і асабліва па хустках, панчохах, торцавых вырабах і цэгле.

Неабходна абсталяваць інтэрнат і сталоўкі, бо з 90 работніц моечнага цэху значная частка іх жыве на вельмі далёкай адлегласьці ад свайго прадпрыемства, што шкодна адбіваецца на плянавай пастаноўцы сярод гэтых работніц выхаваўчай работы.

Дрэнна яшчэ і тое, што існуючы клюб на прадпрыемстве цэху мойкі пагражае абвалам столі.

Акрамя ўсяго гэтага, на прадпрыемствах „Чырвонага Тэкстыльшчыка" зусім не скарыстоўваецца утыль (розныя рубцы ад рызьзя) і няпоўнасьцю загружаны рухавік ў 30 конскіх сіл (загрузку ён мае толькі на 50 проц.). Тут кой што мажліва будзе зрабіць і ў першую чаргу неабходна устанавіць для пераапрацоўкі утылю прычосна- ватныя машыны і адмовіцца ад пераноскі на плечах рабочых як сухой, а таксама і мокрай сыравіны, і ўстанавіць для гэтае мэты невялічкую ваганэтку, чым будзе загружаны на ўсе 100 проц. маючыся рухавік.

Па ткацкаму цэху наматваньне нітак на шпулькі вядзецца спосабамі пэрыоду „мануфактуры", гэта значыць ўручную. Такія спосабы наматваньня трэба зьмяніць спосабамі культурнымі, спосабамі мэханічнага наматваньня—гэта значыць мэханічнымі шпульмашынамі.

# На мясцох

Б. І.

## Нядбайнасьць ці злачынства?

Тураўскае раённае спажтаварыства абслугоўвае раёны дзейнасьці былых Тураўскага, Пятроўскага і Танескага спажтаварыстваў. Ліквідацыя і зьліяньне Танескага і Пятроўскага спажтаварыстваў зроблены фармальна, бяз унутранага арганізацыйнага афармленьня. Склад праўленьня не абраны, раённы зьезд ня склікаўся, ня была створана адна рэўкамісія а ў кожным раёне існуе старая рэўкамісія. Такім чынам, у Тураўскім спажтаварыстве існуе тры рэўкамісіі.

Партыйны і нацыянальны склад працаўнікоў спажтаварыства характарызуецца наступнымі данымі: усяго работнікаў — 83: мужчын—63, жанчын—20. Членаў КП(б)Б—5, ЛКСМБ—12 і беспартыйных—67. Па нацыянальнасьці: беларусаў—50, яўрэяў—33; па сацыяльнаму становішчу: рабочых—26, батракоў—3, беднякоў—5, серадняков—2, служачых—47.

Як бачым, партыйны і камсамольскі склад зусім нязначны. Ня вылучаны і ня ўцягнуты ў працу каапэрацыі лепшыя актывістыя з батракоў і беднякоў. У апараце спажтаварыства ёсьць усяго 3 вылучэнцы. Ненармальным становішчам зьяўляецца тое, што вылучэнка—член праўленьня, якая працуе з мая месяца, ня ведае сваіх функцый. Яна нават ня мае свайго стала для працы. Вылучэнцы не атрымліваюць дастатковай дапамогі як ад кіруючага, так і іншага складу апарату. 27 ліпеня праўленьне разьмяркоўвала абавязкі паміж членамі праўленьня, і чамусьці функцыі разьмеркаваны паміж старшынёю і адным членам праўленьня, а на трэцяга члена праўленьня, вылучэнку т. Касач, забыліся, ёй функцыі ня ўказаны.

Зусім нязначная ўдзельная вага партыйцаў і камсамольцаў сярод працаўнікоў прылаўку: з 23 чалавек— 1 партыец і 5 камсамольцаў.

Плянавая каапэрацыйная праца ў спажтаварыстве адсутнічае, апарат не дысцыплінаваны, існуе паўнейшая безадказнасьць і бескантрольнасьць. Кожны робіць тое што яму хочацца. Праўленьне цэлы дзень занята прыёмам наведвальнікаў, якія прыходзяць за атрыманьнем дэфіцытных тавараў, і не ажыцьцяўляе агульнага кіраўніцтва і кантролю працы апарату Справа даходзіць да таго, што сам старшыня праўленьня шукае падводы для адпраўкі тавараў. Апарат спажтаварыства не ўкамплектаваны, асабліва інструктарамі (не хапае 4 чалавек) Бухгальтэрыя спажтаварыства знаходзіцца ў хаатычным становішчы, асабліва цяпер, у сувязі з арыштам старэйшага бухгальтэра.

Пры такім становішчы гаварыць аб якой-небудзь культмасавай каапэрацыйнай працы ня прыходзіцца.

Аб зборы мэтавых авансаў на будаўніцтва ніякай растлумачальнай работы не праведзена, і ніхто ня ведае, на што гэтыя сродкі зьбіраюцца. У крамах сяла Танежа па распараджэньню загадчыка базы тав. Фрыдмана прыказчыкі пры водпуску фунта газы бяруць рубель у фонд будаўніцтва, і ў пайнікаў атрымліваецца ўражаньне, што за фунт газы бяруць 1 рубель 7 кап. Калі адна бяднячка адмовілася ўнесьці рубель, дык ёй не прадалі фунта газы. Аб прызначэньні фонду на будаўніцтва ня ведаюць ня толькі пайнікі, але і самі работнікі прылаўку (прыказчык Букчанскай крамы ня ведае нават, дзе запісваць у кніжку гэты фонд).

У галіне каапэраваньня беднаты наглядаецца відавочнае скрыўленьне клясавае лініі. Па даных райвыканкому, у раёне ёсьць 631 бядняцкая гаспадарка і 134 батракі; апрача гэтага, у калгасах ёсьць каля 300 бядняцкіх гаспадарак, што дае разам па раёну 1.065 гаспадарак, а каапэравана 1.621. Пры праверцы ў Верасьніцкім сельсавеце высьветлілася, што за кошт ФКБ каапэравана 14 серадняко́ў, якія плоцяць падатку ад 8 да 14 рублёў.

Праверка каапэраваных беднякоў за ўвесь час ня была зроблена. Па выдадзеных пазыках спагнаны нязначныя сумы. Рэшта нескарыстанага фонду каапэраваньня беднаты складае каля 1.700 рублёў.

Слаба праведзена праца па выкананьню дырэктывы аб прыцягненьні мясцовых сродкаў. На 1/IX-30 году па паявых узносах заданьне выканана ўсяго на 74 проц., па ўзносах на будаўніцтва заданьне было дадзена на 5.586 рублёў, а спагнана на 1/IX 560 рублёў, што складае 10 проц. выкананьня. За 9 месяцаў укладаў сабрана каля 2.000 рублёў.

У сувязі з адсутнасьцю культмасавай працы прызначаныя для гэтай мэты сродкі цалкам не выдаткаваны. Па даных бухгальтэрыі, не скарыстана каля 5.000 рублёў культфонду.

Праўленьне ня ведае кантынгенту свайго абслугоўваньня, няма пунктуальнага падліку колькасьці едакоў па асобных сацыяльных групах. Дэфіцытныя тавары ў большасьці заставаліся ў цэнтральных крамах, а раённыя крамы забясьпечваліся недастаткова. (66 проц. дэфіцытных тавараў заставалася ў цэнтральных крамах, а 34 проц. накіроўвалася па раёну). У той час, калі ў раёне ёсьць сэзонна-будаўнічыя рабочыя, якія маюць пільную патрэбу ў бялізьне, праўленьне разьмяркоўвае 50 пар бялізны толькі ў мястэчку. Таксама стаіць справа і з разьмеркаваньнем ботаў.

З-за бюракратычных адносін загадчыка базы тав. Фрыдмана, які не клапоціцца сваячасова аб завозе ў Танеж хлеба, рабочыя будаўнікі і лесазагатоўцы сядзелі па некалькі дзён бяз хлеба, што адбілася на працы. Праўленьнем ня прыняты меры да забесьпячэньня сэзонных рабочых неабходнымі таварамі і прадуктамі. Прамтаварамі сэзонныя рабочыя зусім не забясьпечваюцца. Для рабочых і служачых мястэчка Турава выдадзена 40 пар ботаў, а сэзонным рабочым— ніводнай. У сяле Танежы ёсьць сталоўка, якая абслугоўвае выключна служачых, а рабочыя туды не дапушчаюцца, чым парушаецца клясавая лінія. Па водзывах рабочых, сталоўка прыстасавана выключна для адказных работнікаў. Наогул сталоўка не прыстасавана да абслугоўваньня ўсіх тых, хто мае патрэбу ў грамадзкім харчаваньні (рабочыя, батракі, служачыя).

Няма цьвёрдых норм выдачы дэфіцытных тавараў. Кожны прыказчык устанаўлівае свае нормы. У Радзіонавіцкай краме прыказчыкам устаноўлена норма цукру па 400 грам для ўсіх груп, а рэшту дзеляць ізноў роўна паміж усімі групамі. Ёсьць такія выпадкі, калі самі прыказчыкі бранююць тавары: у Букчанскай краме мануфактура, прысланая для пайнікаў, забранявана, і ўжо 5 месяцаў, як не выдаткоўваецца ні для загатовак, ні для пайнікаў. У гэтай жа краме ёсьць мяшок 85-проц. мукі, якая ляжыць ужо ў працягу доўгага часу.

У мястэчку Тураве ёсьць адна сталоўка, якая не адпавядае свайму прызначэньню: памяшканьне бруднае, цеснае. Абыходжаньне афіцыянтаў з наведвальнікамі грубае, якасьць абедаў дрэнная, гарбату падаюць з мухамі. Ня прымаюцца меры да палепшаньня якасьці абедаў і адшуканьня прадуктаў на месцы. Сталовая камісія адсутнічае. Праўленьнем не распрацавана пытаньне аб арганізацыі грамадзкага харчаваньня ў калгасах.

Праўленьню Тураўскага райспажтаварыства на падставе дадзеных дырэктыў неабходна прыняць усе захады да выпраўленьня і зьнішчэньня выяўленых недахопаў.

Свой

## Не падрыхтаваліся

*(Заслаўскі раён)*

Загатоўчая кампанія па крамах Заслаўскага раёну распачалася са значным спазьненьнем.

Заслаўскае таварыства пачало адразу загатаўляць грыбы і яблыкі, а таксама часткова бульбу і капусту. Самы тэмп загатоўкі праходзіць надзвычайна марудна.

Таварыствам не праводзіліся ніякія растлумачальныя кампаніі аб значэньні розных загатовак. Можна сустрэць у раёне такія вёскі, якія зусім ня ведаюць аб тым, што каапэрацыя прымае, напрыклад, такі каштоўны прадукт, як грыбы, яблыкі і інш. а ўраджай грыбоў і яблыкаў, трэба сказаць, у гэтым годзе добры.

Трэба адзначыць яшчэ адзін недахоп у працы Заслаўскага спажтаварыства: таварыства перад загатоўкамі не паклапацілася аб падрыхтаваньні тары.

Заслаўскаму таварыству трэба быць больш гнуткім у правядзеньні розных мерапрыемстваў партыі і савецкае ўлады на вёсцы, у прыватнасьці, цяпер па пытаньні аб загатоўках.

Селянін

## На беднату забыліся

*(Пухавіцкі раён)*

У вёсцы Таўкачэвічах ёсьць аддзяленьне Шацкага спажтаварыства. Вёска, якую абслугоўвае гэта аддзяленьне, па свайму насельніцтву досыць вялікая і да гэтага пераважна бядняцкая. Спажывецкае таварыства не вядзе ніякай працы сярод насельніцтва. Усе часовыя цяжкасьці ў галіне прамтавараў не растлумачаны насельніцтву. Аддзяленьне таварыства абмяжоўваецца вузкім сваім абавязкам--гандлем.

Гэтыя адносіны з боку праўленьня спажтаварыства, бязумоўна, нездаровыя. Трэба, каб кожны пайнік, кожны селянін наогул ведалі, якія мэты ставіць перад сабою наша каапэрацыя і чаму наглядаюцца тыя ці іншыя цяжкасьці ў працы каапэрацыйнай сыстэмы.

Гаранец

## Хлебазагатоўка прайшла з уздымам

*(Заслаўскі раён)*

Праведзеныя хлебазагатоўкі па вёсках Траскоўскага сельсавету прайшлі з вялікім уздымам бядняцка-серадняцкіх мас. Загатоўкі ў асноўным ужо скончаны. Грамадзкасьць сустрэла і правяла загатоўкі з поўным разуменьнем іх значэньня. Насельніцтва ў асноўным зразумела тыя пастановы і мерапрыемствы партыі і савецкай улады, якія мелі дачыненьне да кампаніі хлебазагатовак.

Хлеб адвозіўся бяз усякага спазьненьня. Кожны дзень у момант загатовак, ледзь золак, можна было чуць, як ляскаюць колы чырвоных абозаў, якія накіроўваліся ў бліжэйшыя спажтаварыствы для здачы хлеба.

Па некаторых вёсках пляны хлебазагатовак перавыкананы.

— Няхай ня будзе нам брыдка—казала беднята вёскі Гарані—вязучы звыш прызначанае нормы свае лішкі ў каапэрацыю. Сяляне вёскі Гарані ў адзін дзень адвезьлі свае лішкі ў бліжэйшую каапэрацыю.

# Раўняйцеся па Прапойскаму!

Прапойскае спажтаварыства да моманту загатоўча-ўборачнай кампаніі зрабіла значную падрыхтоўку. Каб вызваліць жанчын ад хатніх клапот, таварыства ў час уборачнай кампаніі на свае сродкі адчыніла адну дзіцячую пляцоўку і адны дзіцячыя яслі.

Таварыства арганізавала два развозных ларкі, якія ў час уборачнай кампаніі абслугоўвалі бліжэйшыя калгасы і саўгасы.

Акрамя гэтага, з працаўнікоў Прапойскага т-ва былі складзены дзьве брыгады, якія прымалі непасрэдны ўдзел ва ўборцы ўраджаю ў калгасах.

Прапойскае спажтаварыства ў час уборачнай кампаніі паказала сябе сапраўды бальшавіцкай арганізацыяй, гнуткай сыстэмай, якая можа дапамагаць насельніцтву ў працы ня толькі разьмеркаваньнем тых ці іншых тавараў, а і канкрэтнымі мерапрыемствамі.

У гэты час бесьперапынна працавала кіно-перасоўка, якой абслужаны ўсе калгасы.

Да хлебазагатоўчай кампаніі таварыства падрыхтавалася загадзя. Сваячасова адрамантаваны і прыведзены ў поўную гатоўнасьць складзкія памяшканьні. Перад пачаткам хлебазагатоўчай кампаніі былі праведзены сходы каапактыву, жанчын і калгасьнікаў. Пры дапамозе райкому КП(б)Б вылучаны адказныя працаўнікі па загатоўках хлеба і бульбы. Імі ў кожным насельным пункце праведзены сходы беднаты і агульныя сходы сялян па пытаньні загатовак.

На кожным ссыпным пункце ёсьць газэты, расклеены лёзунгі і плякаты, а таксама практыкуецца продаж кніжак.

З жанчын каапактыту і дэлегатак была арганізавана брыгада па рамонту і збору тары.

Таварыствам былі прыняты ўсе захады да таго, каб абслужыць хлебазагатоўцаў кіно-перасоўкай у часе ссыпкі, але гэта мерапрыемства не апраўдалася, бо сялянам не даводзілася начаваць, а здаўшы хлеб ці бульбу, яны ехалі хутчэй да хаты. Ня было выпадкаў, каб сяляне засталіся начаваць з прычыны няздачы збожжа.

Уся праца будуецца досыць плянава: увесь апарат у патрэбных выпадках перакідваецца ў дапамогу на ліквідацыю вузкіх месц.

Другія каапэратывы, раўняйцеся па Прапойскаму!

# Наша хроніка

● Цяпер адбываецца падрыхтоўка да перавыбараў МЦРК. Аднэй з прычын датэрмінованых перавыбараў МЦРК і каапактыву зьяўляецца тое, што мінулая перавыбарная кампанія прайшла з недастатковым удзелам працоўных мас, а таксама партыйных арганізацый.

У выніку таго што ранейшымі перавыбарамі МЦРК слаба кіравалі, ня быў наладжаны дастатковы кантроль над работай ЦРК.

---

● Эканомнарада зацьвердзіла плян загатовак скуранай сыравіны на кастрычнік—сьнежань. Асноўнымі загатоўцамі скуранай сыравіны зьяўляюцца Беларуская кантора „Саюзскур", Белкаапсаюз і Белмалжывсаюз, і таму эканомнарада забараніла пераапрацоўку ўсіх відаў скуранай сыравіны на тэрыторыі БССР усім прыватным асобам, калгасам і саўгасам.

---

● Па буйнейшых гарадох Беларусі цяпер працуюць розныя курсы па падвышэньню кваліфікацыі каапэрацыйных працаўнікоў, напрыклад: курсы кухароў для калгасных, саўгасных і местачковых сталовак, загадчыкаў сталовак, курсы рахункаводаў, статыстыкаў, інструктароў па рацыяналізацыі, інструктароў на забесьпячэньню і г. д. Для больш хутчэйшай падрыхтоўкі прадаўцоў ствараюцца школы-п.расоўкі, якія будуць працаваць у раёнах.

---

● Для больш правільнага разьмеркаваньня тавараў і прадуктаў, для лепшага забесьпячэньня асноўных прамысловых груп рабочых прэзыдыум ЦСПСБ пастанавіў увесьці 5 катэгорый наборных кніжак. I катэгорыя—рабочыя (індустрыяльнікі) „А", II катэгорыя—рабочыя (астатнія) „Б", III катэгорыя—сем'і рабочых „А", IV катэгорыя—астатнія працоўныя і сем'і рабочых „Б", V катэгорыя—дзеці да 12 год.

Белкаапсаюзу прапанавана часова спыніць перарэгістрацыю наборных кніжак. Цяпер у БКС ідзе абгаварэньне праекту ўстанаўленьня новых катэгорый наборных кніжак. Мяркуецца ўстанавіць і VI катэгорыю, куды ўвойдуць асобы вольных прафэсій. Намячаюцца таксама сьпісы прадпрыемстваў, якія будуць аднесены да першай катэгорыі. Новыя наборныя кніжкі будуць выданы ў лістападзе месяцы. Усе старыя наборныя кніжкі будуць анулёваны.

---

● У горадзе Воршы адчыніўся мясны тэхнікум. Тэрмін навучаньня—тры гады. Тэхнікум ставіць сваёй мэтай падрыхтаваць добрых працаўнікоў па загатоўцы і захаваньню мяса. У тэхнікуме ёсьць 2 аддзяленьні: тэхналёгічнае і загатоўчае. У тэхнікум прымаюцца асобы, скончыўшыя сямігодку, школу рабочай моладзі і школу сялянскай моладзі.

---

● 7-га лістапада пускаецца Асінбудаўская дзяржаўная электрастанцыя імя Сталіна, якая дае першы ток заводам БССР. Ток атрымоўваюць наступныя прадпрыемствы: гор. Віцебск—швейная фабрыка, гарбарня, фабрыка „Дзьвіна", завод „Камінтэрн", дражджавы завод, махорачная фабрыка, акулярная, мэблевая, панчошная і друкарня „Камінтэрн". У Воршы пяройдуць на ток Асінбуду камбінат, хладбуд, а таксама дняпроўская мануфактура. Пуск станцыі адкрывае вялікія пэрспэктывы ў справе індустрыялізацыі БССР і паскарэньня тэмпаў калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

---

● Саюзны Саўнарком прапанаваў Наркамфіну і Дзяржбанку прыняць рашучыя меры да зьнішчэньня зацягваньня выдачы зарплаты. Саўнарком выдаў дырэктыву, у якой адзначана, што пасьля 15 лістапада не павінна быць ніякага спазьненьня ў выплаце зарплаты. Запазычанасьць да гэтага тэрміну павінна быць цалкам ліквідавана.

# БІБЛІОГРАФІЯ

**А. Данішэўскі.—Калгасы і нарыхтоўка хутравой сыравіны для вывазу за мяжу. М сква—Ленінград. Дзярж. выд., 1930 г., стар. 32.** *Цана 7 кап., тыраж 30.000 экз.*

Шпаркі рост тэмпаў калектывізацыі нашае сельскае гаспадаркі патрабуе значнае колькасьці розных складаных с.-г. машын, неабходных для вядзеньня буйнае гаспадаркі, як, напрыклад, трактараў, камбайнаў і г. д. Гэтая патрэбнасьць у бліжэйшыя гады будзе абганяць магчымасьці нашае ўнутранае прамысловасьці па вырабу новых складаных машын. І таму адпаведная пастанова ўраду прадугледжвае ўвоз пэўнае колькасьці трактараў з-за мяжі для забесьпячэньня патрэб калектыўнае сельскае гаспадаркі. Гэты экспартны фонд павінен быць утвораны калгасамі за лік здачы імі тавараў ды прадуктаў, якія можна вывозіць за мяжу.

Адным з такіх тавараў зьяўляецца, бязумоўна, і хутравіна, нарыхтоўка якой з гэтае прычыны патрабуе пільнае да сябе ўвагі.

Брашура А. Данішэўскага і зьяўляецца з гэтага пункту погляду вельмі каштоўнаю кніжкаю, бо дапамагае кожнай каапэрацыі наладзіць справу арганізацыі нарыхтоўкі пушнае і хутравое сыравіны. У сыравіне адчуваецца вельмі вялікая патрэба з боку нашых фабрык, якія шляхам апрацоўкі апошняй вырабляюць вельмі каштоўныя тавары для вывазу за мяжу. Аўтар падрабязна пералічае тых зьвяроў і хатніх жывёл, скура якіх можа быць скарыстана. Апрача гэтага, ён высьвятляе тыя правілы, якія неабходна выконваць, здымаючы скуры з розных зьвяроў і хатніх жывёл, каб у працэсе гэтага не папсаваць іх.

Ёсьць паказаньні таго, як арганізаваць справу разьвядзеньня прыгодных для гэтае справы трусоў і інш зьвяркоў ва ўмовах калектыўных гаспадарак.

Кніжка Данішэўскага дзякуючы яе таннасьці павінна быць у кожнай бібліатэцы ці хаце-чытальні калгасаў.

**Зьвералоў**

**Д. Позднышев. Смотр рабочей кооперации. ГИЗ. 1930 г.** *Цена 12 коп.*

Брашурка Позднышава „Смотр рабочей кооперации" ёсьць фактычна матар'ял з галіны практыкі працы брыгад і цэрабсэкцыі.

У студзені месяцы мінулага году прэзыдыум УЦСПС разам з прэзыдыумам цэрабсэкцый ужылі цэлы шэраг шырокага агляду каапэрацыі і галоўным чынам у вытворчых раёнах нашага Саюзу.

Для гэтай мэты былі створаны 12 брыгад, якія складаліся з адказных працаўнікоў прафсаюзных і каапэрацыйных арганізацый. Мэтай брыгад было агледзець становішча цэлага шэрагу каапэрацыйных арганізацый у сэнсе іх працаздольнасьці, забесьпячэньня рабочых, выяўленьня шэрагу скрыўленьняў у працы. Гэтага брыгады дамагліся. Было прыцягнута да працы каля 5 тысяч рабочых брыгад. Брыгады агледзелі працы звыш 2 тысяч крам, магазынаў і сталовак.

Увесь гэты матар'ял у галоўных рысах скарыстаны у гэтай жа брашуры.

Адзначаны слабы ўдзел прафсаюзных і каапэрацыйных арганізацый у справе агляду.

Увесь матар'ял і формы працы саміх брыгад набываюць актуальнейшае значэньне ў сучасны момант, таму што нашы каапэрацыйныя арганізацыі цягнуцца ў хвасьце.

Брашура дасьць сякую-такую практыку для працаўніка, які накіраваны для агляду каапэрацыі, а таксама і каап. працаўніку.

У брашуры ёсьць таксама пастанова прэзыдыуму УЦСПС аб працы брыгад па праверцы работы каапэрацыі ў галіне падвышэньня рэальнай заработнай платы.

**І. Я.**



*Рэдакцыйная калегія—Рэдактар* **Гінзбург**
*Выдавец*—**Белкаапсаюз і Белсампрамсаюз**